PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 48 (2116) Год XLI Беласток 1 снежня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



**Курашаўскія „Незабудкі" сімвалізуюць не толькі кветкі. Яны — „Незабудкі", бо спяваюць, каб не забыцца пра сваё, роднае, кажуць члены калектыву.**

# У Курашаве свята

Ада Чачуга

Прыемна быць сярод людзей, у якіх ты бываў нераз, з якімі размаўляў і якіх фатаграфаваў, а пасля пісаў пра іх. У Курашаве 16 лістапада такіх людзей сабралася многа: і з гмінных Чыжоў, і са Збуча, і з Вялікіх Тыневіч, і з Гайнаўкі. А колькі народу прыехала з Беластока! Вунь адных журналістаў і фатарэпарцёраў я налічыла сем чалавек: і Юрка Каліна, і Генік Вапа, і Марко Заброцкі, і Янак Малец ды Анна Чыжэўская з „Кур'ера паранняга", а яшчэ ж Сяргей Грынявіцкі ды я...

У першым радзе (хаця і на дастаўленай лаўцы) у курашаўскай святліцы сядзяць ганаровыя госці. Ёсць сярод іх і пасол Сяргей Плева з жонкай, і дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі, і ўпаўнаважаны ваяводы па справах нацыянальных меншасцей Славамір Галіцкі, і намесніца дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Барбара Пахольская, і Валянціна Адамская ды Здзіслаў Ліпскі з Ваяводскага саюза сялянскіх гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый, і пробашч курашаўскай парафіі а. Яўген Падгаецкі, і старшыня Беларускага таварыства Янка Сычэўскі, і ўсім вядомы музычны інструктар Сцяпан Копа, і намесніца дырэктара Гайнаўскага дома культуры Ірэна Парфенюк, і ўсемагутны войт Чыжоўскай гміны Рыгор Мацкевіч, які сыпнуў сёння курашаўскім спявачкам някепскім грашом.

Чаму? Бо сёння калектыў спраўляе сваё 20-годдзе! І з гэтай прычыны ў святліцы пахне свежай фарбай ды яе сцены ўпрыгожаны не толькі дыпломамі калектыву, але і саматканымі пасцілкамі, кілімамі, сурвэткамі, народнай вопраткай — усім тым, што пашылі і выткалі сваімі рукамі тутэйшыя спрытныя кабеткі, якія сёння завіхаюцца як могуць каля гасцей і выступаюць на сцэне, а таксама рыхтуюць святочны пачастунак з тортамі, быццам на нейкае вяселле.

Амаль гадзіну чакалі беларускага консула з Беластока, не распачыналі ўрачыстасці. Але консулу ў гэты гарачы суботні дзень 16 лістапада, відаць, было не да гэтага. І так, не дачакаўшыся яго, пачалі ўрачысты канцэрт а 17-ай гадзіне. Першыя выступілі юбілляркі і заспявалі восем песень.

...У канцы чэрвеня мы наведалі Курашава і сустрэліся з Нінай Грыгарук, якая вось ужо многа гадоў кіруе калектывам. Калектыў быў створаны дваццаць гадоў таму, а ўсюды, як расказала яна, ездзіў спачатку з настаўніцай Кацярынай Бай, якая дапамагла курашаўскім жанчынам арганізавацца і была іх першым дарадчыкам. Калектыў выступаў спачатку ў бліжэйшых мясцовасцях, а пасля пачаў браць удзел у аглядах беларускай песні ў Беластоку. Цяпер было б надта дзіўна, калі б „Незабудкі" не выступілі на нашым фестывалі.

Пасля нашай пабыўкі ў Курашаве ў „Ніве" паявіўся артыкул: „Не забыцца пра «Незабудкі»!", у якім мы заклікалі бліжэйшае і далейшае наша асяроддзе, каб не занядбалі гэтага дваццацігоддзя, бо курашаўскія спявачкі заслужылі на салідны юбілей і падтрымку.

Сёння пытаюся ў Ніны Грыгарук, ці наш артыкул зрабіў сваё.

— А як жа! — ўсклікае яна. — Солтыс Васіль Нікалаюк адразу прыйшоў да мяне і кажа: „Ты, а калі гэта будзе ваш юбілей?!" І зараз жа ўсе навокал заварушыліся. Асабліва Юрка Якімюк, дырэктар гміннага асяродка культуры ў Чыжах, ды войт Чыжоўскай гміны Рыгор Мацкевіч памагалі. Першы план нашай урачыстасці нам улажыў Сцяпан Копа — душа-чалавек. Прыехаў, падказаў. Пасля памагалі і Барбара Пахольская з Беластоцкага ВААКа, і Мікола Бушко, дырэктар Гайнаўскага дома культуры, і дырэктар Дэркоўскі і іншыя. А Беларускае таварыства — у падарунку на юбілей — заказала нам у Менску новыя блузачкі, у якіх мы выступаем сёння.

... Спяваюць „Незабудкі" — і ў залу святліцы плывуць гукі свайго, незабыўнага, што засталося ў іх сэрцах назаўсёды. Во толькі, каб іх дзеці і ўнукі гэтыя песні спявалі, марыцца ім. Але, думаю, што ў выпадку Курашава няма патрэбы непакоіцца: у гэтай актыўнай вёсцы людзі шануюць свае традыцыі, а ў школе амаль усе вучні выпісваюць і чытаюць „Ніву".

Сёння на сцэне курашаўскай святліцы спявае шэсць асоб: Ніна Грыгарук, Марыя Сапяжынская, Марыя Яканюк,

*(працяг на стар. 9)*

Яўген Міраневіч

# Сумны беларускі лістапад

За што так апаганьваецца Беларусь яе цяперашнімі ўладамі? Гэтае пытанне ўзнікае кожны дзень, калі сродкі масавай інфармацыі перадаюць весткі з Мінска. Адукаванае і працавітае грамадства, прыведзенае ў стан нейкай летаргіі, абыякава ўспрымае ўсё, што дзеецца з Бацькаўшчынай. Большасць насельніцтва не праяўляе ўжо ніякіх жаданняў стаць грамадзянскай супольнасцю. Але і нідзе, апрача Паўночнай Карэі і Кітая, не праводзілася і не праводзіцца такая яго манкуртызацыя.

7 лістапада, у гадавіну бальшавіцкага перавароту, расійскае радыёвяшчанне і тэлебачанне інфармавалі сваіх слухачоў і тэлегледачоў пра злачынствы, нанесеныя Расіі крываўжэрнай групай Уладзіміра Ільіча Леніна. Гаварылася пра мільёны ахвяр, пра знішчэнне культуры, рэлігіі і душы рускай цывілізацыі. У мінскім, лукашэнкаўскім тэлебачанні ў гэты дзень некалькі разоў перадаваліся прывітанні „белорусскому народу" ад Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. З выпадку гадавіны „Великой Октябрьской Революции" журналісты тэлебачання пыталі жыхароў Гродна, Брэста, Віцебска, Гомеля, Магілёва, што для іх абазначае „этот праздник". Адказы былі выключна станоўчыя. Лукашэнкаўскае тэлебачанне пераконвала беларусаў, што ўсе яны лічаць бальшавіцкі пераварот у Расіі найважнейшым здарэннем у гісторыі свету XX стагоддзя. Амаль гадзіну дэманстраваліся напераменку дакументальныя фільмы са Сталінам, Брэжневам, танкамі, ядзернымі ракетамі і рэпартажы з сёлетняга святкавання ў Беларусі. Чырвоныя сцягі і бальшавіцкія лозунгі на транспарантах у руках дэманстрантаў — усё як бы з нейкага сюррэалістычнага свету. Найбольш імпазантна выглядаў Сталін, назіраючы вайсковы парад, і неадлучны пры тым каментарый пра „великую и непобедимую страну рабочих и крестьян".

Тыдзень пасля прэзідэнт прабаваў прывярнуць да жыцця гэту краіну, якую так сентыментальна паказвалі яго журналісты. Спектакль гэтым разам ставіўся ў парламенце суседняй краіны. У прысутнасці расійскіх камуністаў і шавіністаў з фракцыі Жырыноўскага, Лукашэнка зрабіў пералік сваіх заслуг для Расіі. Асабліва звяртаў ён увагу на рэферэндум 1995 года, які дазволіў яму згодна волі „белорусского народа объединиться с Россией" і прывярнуць рускай мове статус дзяржаўнай. Чарго-

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*Rozmowa ze Sławomirem Halickim — pełnomocnikiem wojewody białostockiego d/s mniejszości narodowych. Dziś mniejszości narodowe mają większe prawa, niż pozostali obywatele państwa polskiego. Zmniejszony próg wyborczy, większe subwencje na oświatę, nauczanie języka.*

*— W jaki sposób identyfikuje się grupy narodowościowe?*

*— Takim wyraźnym czynnikiem jest religia. Ale przecież prawosławny, to niekoniecznie Białorusin... Połowa prawosławnych określa się jako Polacy. Tylko jedna czwarta określa się jako Białorusini. Reszta to tzw. „tutejsi". Jest faktem, że znaczna część Białorusinów mówi gwarą północnoukraińską.*

*— Czy nie jest wystarczającym kryterium, że ktoś czuje się po prostu Białorusinem?*

*— To kryterium subiektywne. Kryterium obiektywne to religia, pochodzenie, język, historia i tradycja. Nie zawsze ten kto mówi, że jest Białorusinem jest w nim w rzeczywistości. Na podstawie tych kryteriów stosunkowo łatwo można dowieść istnienia w przeszłości organizacji rosyjskich czy ukraińskich.*

*— A ilu jest Ukraińców?*

*— Mówią oni nawet o 50 tysiącach w samym Białymstoku. Świadomych Białorusinów na Białostocczyźnie jest około 50 tysięcy.*

*Kurier Poranny, nr 261*

А ўсё гэтае гаворыць чалавек адказны за палітыку дзяржавы ў адносінах да нацыянальных меншасцей на Беласточчыне. Абурaецца прытым, што некаторыя беларусы не хочуць з ім супрацоўнічаць. Невядома толькі, ці гэтае інтэрв'ю было заплананава як дэманстрацыя ігнаравання беларусаў, ці з'яўляецца яно толькі адлюстраваннем поглядаў упаўнаважанага.

* * *

*Ze względu na ścisłą współpracę BTSK z władzami Republiki Białoruś, w szczególności z rządem, postanowiłem skorzystać z zaproszenia (na Ogólnonarodowe Zebranie Białoruskie zwołane przez prezydenta Łukaszenkę). Moje wewnętrzne przekonanie mówi mi, że Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne nie może pozostawać obojętne czy lekceważąco odnosić się do władz RB. (...) Prezydent witał po rosyjsku i powiedział dokładnie tak: „Priwietstwuju Syczewskawa Jana Janawicza, priedsiedatiela Kulturna-praswietitielnawa Biełaruskawa Tawariszczestwa w Biełastokie". Do głowy mi nie przyszło, że prezydent będzie mnie witał. (...) Mogę przypuszczać, że jest to jedynie wyraz autorytetu, którym cieszy się nasza organizacja u przedstawicieli władz centralnych Republiki Białoruś. (...) Na łamach „Niwy" nadal zauważyłem ignorowanie naszej działalności i, co gorsza, demonstrowanie nienawiści do Towarzystwa,* — сказаў Ян Янавіч Сычэўскі — старшыня БГКТ журналістам штомесячніка

*Czasopis, nr 11*

Хаця не адчуваем да нікога ніякай нянавісці і прабачаем „нашым хлопцам" за ўсю нікчэмнасць, якую безупынна праяўляюць у адносінах да нас, цешымся аднак, што Ян Янавіч і Аляксандр Рыгоравіч не называюць нас сваімі сябрамі.

* * *

*Chuligani zdemolowali stadiony w Poznaniu i Wrocławiu oraz stoczyli krwawe bitwy z policją. Ciekawą metodę zapobiegania agresji opracowała policja szwajcarska: kibice udający się na mecz do innego miasta muszą opuścić autobus na 20 kilometrów przed stadionem i powędrować do niego pieszo. Większość po pokonaniu tego dystansu ma już tylko siłę usiąść w miejscu i w spokoju obejrzeć spotkanie.*

*We Francji oddziały specjalne policji rzadko wychodzą do akcji przeciwko kibicom. Ale jeśli już zostaną zmuszone do wyjścia, wówczas pozostawiają na polu bitwy „mokrą plamę w barwach klubowych". Toteż kibice są bardzo ostrożni w dążeniu do konfrontacji z oddziałami w granatowych kombinezonach.*

*Polityka, nr 44*

* * *

*Tak zwana muzyka chodnikowa, disco polo — używanie tych nazw powinno być zakazane w towarzystwie i równać się zepsuciu powietrza, czy spuszczeniu spodni i wypięciu gołej d... na znajomych. Grymasy pełne obrzydzenia, wzruszenie ramionami i temu podobne odruchy manifestującej się dezaprobaty nie wystarczą. To nie szkodzi, że muzyczna „łupanka" na tzw. parapetach z automatyczną perkusją i nachalny, prostacki wokal na kanwie kretyńskich tekstów, podobają się, że wszędzie słyszy się to natręctwo, że go pełno, że uzupełnia chłam na kasetach wideo i sieczkę w postaci wenezuelsko-kabotyńskich seriali w telewizji. Taniocha i szmira zawsze były i zawsze mogły liczyć na masowy odbiór. Ale kiedyś mówiło się o tym i pisało. Głośno, otwarcie, w ostrym tonie. Krytyka tępiła to „robactwo" muzyczne jak prawdziwe insekty. Pytanie: a kto ma się zająć kształtowaniem gustu, smaku, edukacją kulturalną podrastającej nam klasy średniej, która wstała niedawno z łóżka polowego i przeniosła się do bajeranckich gabinetów, ale upodobania kulturowe „z chodnika" zabrała ze sobą?*

*Jazzi magazine, nr 16*

Нашага культурнага „хламу" нават нельга кранаць. Зараз падымаецца тады крык выдатных дзеячаў пра: „аплёўванне", „нянавісць", „здраду" і шмат іншых злачынстваў.

# З мінулага тыдня

**Паўночнаатлантычная Асамблея**, якую складаюць прадстаўнікі 16 краін-удзельніц НАТО і 24 асацыіраваных еўрапейскіх дзяржаў, выказала сваю салідарнасць з дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і заклікала прэзідэнта РБ прытрымоўвацца прынцыпаў парламетарызму.

**Нельга нам маўчаць**, калі ля нашых граніц будуецца дыктатура, — сказаў журналістам пасол Сейма **Багдан Барусэвіч** пасля вяртання з Менска. Сітуацыю на Беларусі параўнаў ён да ваеннага становішча ў Польшчы і заклікаў польскія ўлады і парламент як найхутчэй выказаць сваю пазіцыю ў адносінах да здарэнняў у Менску. На яго думку, канфлікт паміж прэзідэнтам **Аляксандрам Лукашэнкам** і Вярхоўным Саветам з'яўляецца пачаткам дзяржаўнага перавароту ды перастаў ужо быць унутранай справай Беларусі і толькі хуткае рэагаванне суседніх дзяржаў можа прадухіліць кровапраліцце.

**Прэзідэнты Польшчы, Літвы і Украіны** падпісалі супольную заяву, у якой выказалі глыбокую занепакоенасць развіццём сітуацыі ў Беларусі. „Як самыя блізкія суседзі РБ, якія поўнасцю прызнаюць яе суверэнітэт, — падкрэслілі **Аляксандр Кваснеўскі**, **Альгірдас Бразаўскас** і **Леанід Кучма**, — заклікаем вырашыць цяперашні канфлікт канстытуцыйным шляхам".

**Сейм**, у пастанове аб сітуацыі ў Беларусі, заявіў: „Парушэнне канстытуцыі і асноўных правоў чалавека — гэта шлях да ўстанаўлення дыктатуры і вывядзення Беларусі на абочыну дэмакратычнай супольнасці еўрапейскіх дзяржаў".

**Прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч** сказаў, што ўрад з вялікім неспакоем наглядае за развіццём канфлікту ў Беларусі і гатовы даць палітычнае прыстанішча беларускім палітыкам. „Польшча дапаможа кожнаму, хто з-за сваіх палітычных пераканнняў падвяргаецца ганенням у сваёй краіне", — сказаў ён.

**Прэзідыум Беластоцкага рэгіёна прафсаюза „Салідарнасць"** звярнуўся да польскага ўрада з заклікам падтрымаць беларускую дэмакратычную апазіцыю, якая выступае супраць дыктатарскіх памкненняў прэзідэнта. Прафсаюзныя дзеячы лічаць, што „нельга раўнадушна назіраць за падзеямі за нашай усходняй мяжой, паколькі яны небяспечныя таксама і для бяспекі нашай краіны".

**Гранічны пераход у Кузніцы-Беластоцкай**, у знак пратэсту супраць доўгіх чэргаў на мяжы, быў на працягу трох гадзін блакіраваны шаферамі аўтафураў (TIR-ów). Ад 17 лістапада беларускія мытнікі пачалі больш дэталёва прытрымоўвацца канвенцыі аб міжнародных перавозах і патрабаваць падрабязных спісаў перавожаных тавараў. Такім чынам падпадалі яны загаду мытнай адміністрацыі Расейскай Федэрацыі аб абвастрэнні кантролю дакументаў, якія абавязвае ад 1 верасня г.г. Аўтафуры чакаюць на граніцы па 50 гадзін, а чарга аўтамашын дасягнула межаў Саколкі (15 км).

**Згуртаванне гмін Белавежскай пушчы**, якое аб'ядноўвае дзевяць прыпушчанскіх гмін, лічыць, што вядучыя гаспадаркі ў гэтым раёне павінны як найхутчэй прыстасавацца да развіцця агратурызму. Падодле даследаванняў праф. **Васіля Паскробкі** з Беластоцкай палітэхнікі, жыхары прыпушчанскіх вёсак прыхільна і з надзеяй ставяцца да перспектывы развіцця агратурызму. Каля 20% дамоў мае ўжо адпаведныя ўмовы прымаць турыстаў, а чарговыя 20% хоча неадкладна мадэрнізавацца.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Беларусь пасля рэферэндума.**
- **Пра чорта, які завёўся ў хаце** — піша Міра Лукша.
- **Пра моду на ашуканства** — піша Уладзімір Сідарук.

# Весткі з Беларусі

**Указ аб адстаўцы**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выдаў указ аб адхіленні ад пасады старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара, які прэзідэнцкі рэферэндум палічыў антыканстытуцыйным дзеяннем. Новым старшынём прэзідэнт назначыў Лідзію Ярмошыну. Ва ўказе Аляксандр Лукашэнка загадаў пракуратуры разгледзець пытанне „аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб, вінаватых у парушэнні парадку вылучэння В. Ганчара ў склад Цэнтрвыбаркама" (вылучыў яго Вярхоўны Савет насуперак волі прэзідэнта). Экс-старшыню з рабочага кабінета выдварыла прэзідэнцкая ахова. У будынак Цэнтрвыбаркама не быў дапушчаны старшыня ВС Сямён Шарэцкі.

**Пазіцыя дэпутатаў**

Віктар Ганчар заявіў, што не прызнае прэзідэнцкага ўказа і ў далейшым будзе выконваць абавязкі старшыні Цэнтрвыбаркама. Нечарговае пасяджэнне камісіі хацеў ён склікаць у памяшканні Вярхоўнага Савета, але будынак парламента акружыла міліцыя. Перад парламентам збіраліся групы дэманстрантаў, каб маральна падтрымаць апазіцыйных дэпутатаў, якія сабраліся ў Авальнай зале, каб такім чынам не дапусціць да разгону Вярхоўнага Савета. Дэпутаты сабралі больш за семдзесят подпісаў, неабходных для аб'яўлення імпічменту — працэдуры адхілення ад пасады прэзідэнта за яго проціпраўныя дзеянні. Тым часам Арганізацыя Бяспекі і Супрацоўніцтва ў Еўропе накіравала прэзідэнту Лукашэнку пратэст у сувязі з адстаўкай Віктара Ганчара.

**Дэманстрацыя ў Менску**

17 лістапада ў Менску адбылася 10-тысячная дэманстрацыя, якой удзельнікі патрабавалі свабоды слова (напярэдадні на мытні ў Ашмянах быў затрыманы 200-тысячны тыраж „Нашай ніве" і яе выдавец Павел Жук) і пашанавання прэзідэнтам канстытуцыі. Дайшло да сутыкнення з міліцыяй і АМОНам. Сілы аховы парадку пусцілі ў ход дубінкі і слёзатачывы газ. У выніку пацярпелі каля дваццаці дэманстрантаў, у тым ліку парламентарыі Станіслаў Багданкевіч і Анатоль Лябедзька. Удзельнікі дэманстрацыі неслі антыпрэзідэнцкія плакаты і транспаранты, а таксама лозунгі ў абарону адстаўленага прэзідэнцкім указам старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара.

**Прэм'ерская адстаўка**

Прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір падаў на рукі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі заяву аб сваёй адстаўцы, якая была прынята. Выконваючым абавязкі старшыні Кабінета Міністраў назначаны віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг. Абвяргаючы чуткі аб сваёй адстаўцы, сказаў ён, што „нельга пакідаць у цяжкі момант без падтрымкі прэзідэнта, які змагаецца не за свае інтарэсы, але за інтарэсы рэспублікі".

**Рэгламентацыя тавараў**

Насуперак нядаўнім заявам, што клопаты з набыццём некаторых харчовых прадуктаў маюць пераходны характар і невыбаве будуць яны ліквідаваны, ад 15 лістапада ў розднічным гандлі аднаму пакупніку прадаюцца абмежаваныя колькасці тавараў. Рэгламентацыі падлягаюць не толькі тыя тавары, якіх апошнім часам не ставала (мяса, вяндліна, масла), але ажно 21 харчовы прадукт, а таксама папяросы і запалкі. Згодна з аб'явамі ў менскіх магазінах, у адны рукі можна прадаць, між іншым: мяса — 2 кг, свойскай птушкі — 2 шт., вяндліны — 1 кг, сыру — 400 г, тварагу — 500 г, хлеба — 2 кг, воцату — 1 бутэлька.

**Шанц на Оскара**

Беларуская кінастужка „З пекла ў пекла" Дзмітрыя Астраханава вылучана на атрыманне прэміі Оскар у катэгорыі лепшых замежных фільмаў 1996 года, — паведаміла Амерыканская акадэмія кінамастацтва. Усяго на конкурс нацыянальныя журы прапанавалі 39 карцін.

**Смерць журналіста**

11 лістапада на 286-м кіламетры трасы Брэст—Менск, каля вёскі Яблынаўка, загінуў у аўтакатастрофе прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў „Усход—Захад", вядомы журналіст Анатоль Майсеня. Стаўбцоўскі раённы аддзел унутраных спраў паведаміў, што Анатоль Майсеня, знаходзячыся за рулём аўтамабіля „Джып-чырокі", не справіўся з кіраваннем і сутыкнуўся з машынай „ГАЗ-53", якая рухалася ў тым жа напрамку. Па дарозе ў бальніцу ён памёр. Па гэтым факце заведзена крымінальная справа.

# Бельск бліжэй свету

18 лістапада ў Бельску-Падляшскім урачыста здалі ў карыстанне новую тэлефонную станцыю. — Гэта вялікае свята, — падкрэслівалі падчас урачыстасці ўсе прамоўцы, гаспадары і госці, — бо, такім чынам, Бельск атрымаў непасрэдны кантакт з усім светам. Тэлефоны і добрыя дарогі скарачаюць адлегласць між цэнтрамі і перыферыямі, ліквідуючь сэнс тэрміна „правінцыя".

Дзякуючы гэтай станцыі можна падключыць да тэлефоннай сеткі больш за пяць з паловаю тысяч новых абанентаў у самім горадзе, а гэтак званыя загароднія адзінкі дазваляюць устаноўку звыш пяці тысяч новых нумароў у Бельскім раёне. У кожных дваццаці чалавек на сто будзе тэлефон — гэты паказчык адзін з лепшых у краіне (вядома, калі разглядаць вясковыя тэрыторыі). Прычым сённяшнія лічбавыя станцыі пабудаваны такім чынам, што можна іх — калі б была такая патрэба — разбудоўваць як кубікі *Lego* (бельскую — нават да 250 тысяч нумароў).

Сучасная тэхніка палепшыць якасць паслуг і дае зусім новыя магчымасці, напрыклад, адначасовую размову некалькіх дзесяткаў абанентаў, што дазваляе праводзіць у Бельску тэлеканферэнцыі. Сем'і могуць інсталяваць „гарачую лінію", якая адразу, калі толькі дзіця падыме трубку, набярэ працоўны нумар бацькі ці маці. Не гаворачы пра тое, што нават буджэнне будзе працсей заказваць.

Тэхніка тэхнікай, але не лішне засцерагчыся ад непрадбачанага і высвяціць яе напачатак. Тым больш, што ўся інвестыцыя — разам з пракладкай сеткі — каштавала 200 мільярдаў старых злотаў і, паводле спадзяванняў, вернецца толькі праз дзесяць гадоў.

**(ак)**

*Фота Міколы Ваўранюка*



*Тэлефонную станцыю ў Бельску-Падляшскім пасвяцілі кс. канонік Войцех Васак і а. благачынны Юрый Такарэўскі (між імі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі)*

# Заправачная станцыя

Польскае прадстаўніцтва нарвежскага канцэрна *Statoil* адчыніла ў гэтым месяцы ў Беластоку сваю другую заправачную станцыю. Знаходзіцца яна па вул. Zwycięstwa. Станцыі *Statoil* характэрныя шырокай паслуговай інфраструктурай і забеспячэннямі экалагічнага характару. Як прынцып, на станцыі такой знаходзіцца абшырная крама, дзе акрамя ўсякага віду масла для аўтамашын і запасных частак можна таксама набываць прэсу, кнігі, харчовыя прадукты (уключна са свежым хлебам і булачкамі). Архітэктары станцыі дбаюць і пра тое, каб у наваколлі знайшлося месца для зелені. У паслуговую інфраструктуру ўпісваецца аўтамыйня і яшчэ адна, нязначная на выгляд, прылада, якая аказваецца пыласосам. Пыласос уключаецца на чатыры хвіліны і абслуга станцыі запэўнівае, што за гэты час можна пачысціць машыну ўсярэдзіне. Сумненне тут наводзіць адно пытанне, ці можна ў гэты кароткі прамежак пачысціць *малюха*.

У Польшчы *Statoil* адчыніў агулам 36 сваіх заправачных станцый. Да канца гэтага года, паводле прадстаўнікоў фірмы, станцый гэтых мае ў Польшчы быць 43. Усе кошты інвестыцыі фінансуюцца дабыццём нафты з дна Паўночнага мора. Адцягванне нафты і зямнога газу з Паўночнага мора набыло ў Нарвегіі статус нацыянальнай прамысловасці — канцэрн *Statoil* з'яўляецца поўнасцю дзяржаўным прадпрыемствам. Праца на буравай платформе, як заявілі прадстаўнікі фірмы, характэрная павышанай псіхічнай напругай, але і вельмі ж прыбытковая для работніка. Факт гэты ставіць Нарвегію на першае месца ў Еўропе па ўзроўню жыцця грамадзян. Залежаў нафты і прыроднага газу ў Паўночным моры павінна хапіць на якіхсьці 50 гадоў. Залежамі гэтымі моцна цікавіўся ў час сваёй кадэнцыі амерыканскі прэзідэнт-рэспубліканец Р. Рэйган, які бачыў у іх магчымасць ліквідацыі залежнасці Заходняй Еўропы ад расейскага газу. У наш час, заяўляюць прадстаўнікі *Statoil*, рынак Заходняй Еўропы ўжо насычаны. Інвестыцыі праводзяцца ў такіх краінах як Польшча, усходняя Нямеччына, Літва, Латвія, Эстонія, таксама Ірландыя.

*Statoil*, адчыняючы ў Польшчы свае станцыі, спадзяецца, што з часам усталюецца тут нармальная канкурэнцыя, а гэта: свабода цэнам нафты і прадуктам з яе ды ліквідацыі імпартных абмежаванняў на нафту. **(ам)**

# Засталіся адны ўспаміны

Вёска Мокрае, што ў Бельскай гміне, засталася ў маёй памяці як адна з больш культурных і актыўных у грамадскай дзейнасці мясцін Бельшчыны. Прыязджаў я сюды ў шасцідзесятых гадах з кінаперасоўкай. Яшчэ электрычнага святла не было тут, а кінасеансы дэманстраваліся пры дапамозе электраагрэгата.

Хлынулі макране да культуры быццам мухі да мёду. Амаль заўсёды на кожны фільм камплект гледачоў збіраўся. Часам і перапоўнена была глядзельная зала, якая змяшчалася ў мясцовай рамізе-святліцы.

У Мокрым, пры камуне, актыўна дзейнічала пажарная каманда. Яна была ініцыятарам усіх мясцовых культурных і грамадскіх мерапрыемстваў. Такім спосабам пабудавалася ў грамадскім пачыне раміза-святліца, праціпажарны басейн.

Такім жа спосабам (а пры дапамозе Бельскага малочнага кааператыва) пабудавалася „злеўня" малака, якой нават намнога большая вёска Дубяжын дагэтуль зайздросціць.

У вёсцы была пачатковая школа. Хоць чатырохкласная, аднак была. Арганізаваліся тут беларускія фэсты.

Што зараз сабою прадстаўляе гэтая вёсачка?

У палове лістапада спатрэбілася мне сваякоў у Мокрым наведаць. Еду я брукаванай вуліцай вёскі і на бакі разглядаюся. Усё на сваім месцы, па-даўнейшаму, толькі дамы некаторыя састарэліся, быццам прыкуліліся і рыхтуюцца да зімовай дрыматы.

Вось і раміза-святліца, дзе я сустракаўся са сваімі кінагледачамі. Стаіць адзінокая. Пустая і глухая. Дах зялёным мохам пакрыўся. Толькі фіранкі ў вокнах напамінаюць, што яшчэ нехта час ад часу сюды заглядае.

Побач, растапырыўшы дзверы, з выбітымі вокнамі, наракае на сваю долю невялічкі будыначак даўнейшай школы. А з другога боку вуліцы, праціпажарны басейн з пайржавелай агароджай і абарванай брамкай чакае, калі нехта злітуецца і прывядзе ў стан даўнейшай прыгажосці.

Гляджу я на Мокрае і верыць не хочацца, што гэтая актыўная мясціна састарэлася. Ці гэта праўда, што калісьці бурліла жыццём, смехам моладзі, гукамі музыкі? Не паверыў бы нікому ў тое, што зараз сам пішу. Толькі мае ўспаміны з мінулага пацвярджаюць усё гэта.

**Уладзімір Сідарук**

# II Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць II Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.

**Тэматыка**

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

**Прынцыпы ўдзельніцтва**

1. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах:
— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ,
— II група: моладзь сярэдніх школ,
— III група: дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).
2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў двух катэгорыях: паэзіі і прозы.
3. Конкурсныя працы, надрукаваныя на машынцы або разборліва рукапіс у трох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу). Працы трэба падпісаць крыптанімам і адзначыць нумар узроставай групы і паслаць на адрас:

Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok

з прыпіскай на канверце: II Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.
4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такімі нумарам узроставай групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.
5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.
6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**Тэрміны**

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае 15 красавіка 1997 г. (вырашае дата паштовага штампа).
2. Конкурс завершыцца да 31 мая 1997 г.
3. Аб'яўленне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел. Прадугледжваецца таксама аўтарская сустрэча з лаўрэатамі.

**Узнагароды**

1. Арганізатары прыдбалі ўзнагароды вартасцю ў 3 000 злотаў. Дапускаюцца таксама ўсялякія іншыя ініцыятывы арганізацый і прыватных асоб з мэтай павелічэння колькасці ўзнагарод. Арганізатары будуць садзейнічаць такім ініцыятывам.
2. Аб падзеле і вартасці ўзнагарод рашае ўстаноўленае арганізатарамі журы.
3. Журы можа не выкарыстаць усяго фонду ўзнагарод.
4. Арганізатары прадугледжваюць магчымасць публікацыі ўзнагароджаных твораў (без права аўтараў на ганарары) на старонках „Нівы", у агульнапольскім друку і па радыё.
5. Як дадатковая ўзнагарода прадугледжваецца выданне асобнага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных цераз журы прац.

**Заключныя заўвагі**

1. Працы, якія не адпавядаюць правілам конкурсу, не будуць разглядацца.
2. У справах, якія вынікаюць з супярэчлівага тлумачэння правілаў, канчатковае рашэнне выносяць арганізатары ў паразуменні з журы.
3. Сакратарыят конкурсу змяшчаецца ў:

Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok
tel. 435-022

Тут можна атрымаць дэталёвую інфармацыю.

Запрашаем прыняць удзел у конкурсе і жадаем поспехаў.

**Арганізатары**

# Беларусу баліць сэрца

Вядома, што Аляксандр Лукашэнка быў выбраны прэзідэнтам таму, што многа абяцаў жыхарам Беларусі. Запэўніваў ён, што падыме ўзровень жыцця насельніцтва, прыцягне да крымінальнай адказнасці карупцыянераў, запусціць заводы, увядзе двухмоўе, заменіць сімволіку Беларусі і т.п. Ён прасіў выбаршчыкаў даць яму поўную ўладу дзеяння, як будучаму прэзідэнту Беларусі. Народ паверыў Лукашэнку і за яго прагаласаваў.

Большасць гэтых абяцанняў аказаліся мантой. Было зусім лёгка зняць Пагоню і парваць на кавалкі бела-чырвона-белы сцяг і пачапіць свае пракамуністычныя сімвалы. Такім чынам аганьбаваў ён старыя дзяржаўныя сімвалы Беларусі, якія маюць за сабою стагоддзі гісторыі і былі прыняты парламентам і зацверджаны Канстытуцыяй Беларусі. Змена дзяржаўных сімвалаў Беларусі пракамуністычнымі выклікала незадаволенне шырокіх масаў на Беларусі, а таксама і на эміграцыі.

Аднак да гэтага часу Лукашэнка нічога не зрабіў з карупцыянерамі, не запусціў заводы, а толькі паўстрымаў развіццё індустрыі, эканамічныя рэформы і нацыянальнае развіццё рэспублікі.

Калі аднойчы Беларусь наведаў французскі журналіст Іф Жуанік, каб пасля расказаць сваім чытачам пра малавядомую для іх краіну Беларусь, дык журналіст штодзёнкі „Народная газета", паставіў яму такое пытанне:

— Цікава, як бы вы адрэагавалі, калі б ваш прэзідэнт выказаў незадаволенасць дзейнасцю журналістаў і папабяцаў з імі паквітавацца?

— Ну, гэта была б сапраўдная рэвалюцыя. Пра такую падзею газеты пісалі б больш, чым пра самыя страшныя забойствы, і не пакінулі б на прэзідэнце жывога месца, ператтросшы на сваіх старонках кожны кавалачак біяграфіі яго, родных, блізкіх і знаёмых так, што сам падаўся б у адстаўку, не дачакаўшыся канца гэтай вайны („Народная газета" ад 22 лістапада 1995 г.).

Гледзячы з далёкага Лондана на тое, што дзеецца на Беларусі сёння, не аднаму беларусу баліць сэрца за дэструкцыйную работу, якую праводзіць „народам абраны" прэзідэнт Лукашэнка. Ён знішчыў першыя парасткі адраджэння беларускай мовы, беларускага школьніцтва, падарваў аўтарытэт беларускай дзяржавы ў навакольным свеце і нішчыць незалежную прэсу. Тых беларусаў, якія хоць крыху думалі па-беларуску, Лукашэнка адсунуў ад улады і паставіў сваіх русафілаў. Згубіўшы гонар сумленнага чалавека, Лукашэнка публічна абвінавачвае нявінных людзей у той дзейнасці, якую не яны, а якраз ён сам робіць са сваёю дабранаю вертыкаллю. У прамове да кіраўнікоў абласных, грамадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў у лістападзе 1995 году Лукашэнка сказаў:

„Сёння радыкал-нацыяналістычная апазіцыя пры падтрымцы ценявых мафіёзных структур у поўным сэнсе слова імкнецца да ўлады, да бязмежнай дыктатуры. Ускормленыя на „брудныя" грошы палітыкі і сродкі масавай інфармацыі нагнятаюць у грамадстве масавы псіхоз, нацкоўваюць насельніцтва на дзяржаўныя структуры, на прэзідэнта. (...)

Таварышы кіраўнікі! Не жывіце ілюзіямі. Калі нацыяналістычная суполка „спадароў" установіць сваю дыктатуру, для многіх з вас і вашых сем'яў адразу ж паўстане пытанне аб асабістай небяспецы. Галоўная ж задача нацыяналістычнай дыктатуры — усталяваць уладу крымінальнага капіталу і крымінальнай мафіі, каб канчаткова разабрацца і вывесці ў чужыя банкі народны набытак. (...)

У мяне моцныя нервы. Не выйдзе, панове!.. Але і вы, кіраўнікі выканаўчай улады на месцах, не павінны сядзець склаўшы рукі. Вы абавязаны, абапіраючыся на канстытуцыйныя нормы, у кожнай вобласці, у кожным раёне пакласці канец разгулу экстрэмісцкіх і мафіёзных элементаў, пад якімі б перавернутымі лозунгамі яны ні выступалі. І гэта — ваш прамы канстытуцыйны доўг, прамы абавязак перад народам".

Так гэта Лукашэнка запалохвае сваіх супрацоўнікаў перад небяспекай дэмакратыі, якая быццам пагражае іхняму жыццю. А што да Канстытуцыі, дык ніхто яе так не зневажае і не ломіць як сам Лукашэнка. Усе гэтыя беспадстаўныя закіды ў адрас дэмакратаў адносяцца якраз да дыктатара Лукашэнкі. Ён нават сваім указам забараніў дзяржаўным прадстаўнікам выезд за граніцу, а таксама недазволена было выехаць у Прагу тром беларускім карэспандэнтам незалежных газет па запрашэнні міжнароднай арганізацыі. Як бачым, Беларусь паволі становіцца турмой народа.

Будучы на юбілейнай сесіі Генеральнай асамблеі, прысвечанай 50-годдзю ААН, некаторыя бізнесмены Нямеччыны, як казаў Лукашэнка, прасілі аб сустрэчы з прэзідэнтам Беларусі. І калі прэзідэнт Лукашэнка паехаў у Нямеччыну, дык у інтэрв'ю нямецкай газеце „Гандэльсблат" сказаў, „Гитлер сформировал мощную Германию благодаря сильной президентской власти". Вось тут і паказаў сябе прэзідэнт Лукашэнка з каго бярэ ён прыклад у сваёй рабоце. Але ці не ведае Лукашэнка, што засталося ад гітлераўскай работы? Усё што ён „сформировал" лягло ў развалінах, краіна пацярпела мільённыя людскія ахвяры, страту свае тэрыторыі, а нямецкі народ дзесяцігоддзямі пераносіў ганьбу і паніжэнне навакольнага свету з-за палітыкі Гітлера.

На запытанне Галіны Уліцёнак адносна папулярнасці прэзідэнта Лукашэнкі, дацэнт А. Лімарэнка адказаў:

„Я думаю, што большасць маіх калег пагодзіцца, калі я скажу, што рэйтынг прэзідэнта проста аб'ектыўна не можа павышацца. Лукашэнка ажыццяўляе крайне жорсткую фінансавую палітыку — мы на сваіх зарплатах гэта адчуваем. Разам з тым ён не праводзіць эфектыўнай рэформы, і ўзровень жыцця рэзка зніжаецца. Аднак хачу падкрэсліць, што ўладу трэба крытыкаваць — гэта нармальна, але кідацца на яе з крыкам „ату" — не варта. Асабліва гэта тычыцца прэсы, да якой, на жаль, наша ўлада ў сваю чаргу таксама ставіцца цалкам нецывілізавана. Паўсюль патрэбны дыялог. Здавалася б, ужо павінен быў пачацца нейкі масавы бунт, здавалася, людзі павінны ўжо выйсці на плошчы, бо падзенне ўзроўню жыцця проста трагічнае".

Сапраўды, стан узроўню жыцця на Беларусі трагічны і не відаць, каб Лукашэнка са сваёй палітыкай выйшаў з крызісу. Ён не шукае новых дарог у эканамічнай палітыцы, а лезе назад у старую калгасную сістэму, якая паказала сваю неэфектыўнасць.

Я, аднак, сумняваюся ў адной выказанай думцы дацэнта А. Лімарэнкі, дзе ён піша:

„Але ў адносінах да будучыні беларускай нацыянальнай культуры я — аптыміст і не падзяляю боязь нашай інтэлігенцыі, якая сапраўды шчыра хвалюецца за лёс беларускай мовы, культуры. Я лічу, перакананы, што Беларусь не толькі была, ёсць і будзе існаваць пры любых абставінах. І гэтае перакананне грунтуецца на фактах, шматлікіх выніках сацыялагічных даследаванняў. Кожны, хто жыве ў Беларусі, лічыць сябе менавіта жыхарам Беларусі".

Як бы даследчыкі не праводзілі свае доследы, аднак народ, які знаходзіцца стагоддзямі пад варожай дамінацыяй, з часам траціць свой нацыянальны патэнцыял і расплываецца ў чужым моры. Аб гэтым гавораць факты, што не адзін народ, які апынуўся ў межах расейскай імперыі, а потым у складзе СССР, страціў сваю мову, свой нацыянальны воблік і знік назаўсёды. Каб захаваць свой нацыянальны твар, трэба змагацца за сваю годнасць, за свае правa, за сваю мову, за сваю дзяржаўную незалежнасць, што ёсць пашпартам кожнае нацыі.

24 лістапада праходзіў на Беларусі рэферэндум па ініцыятыве прэзідэнта, які хоча змяніць некаторыя пункты Канстытуцыі, каб мець неабмежаваныя паўнамоцтвы. Раней Лукашэнка быў сааўтарам гэтай Канстытуцыі, за яе галасаваў, на яе прысягаў, а цяпер, дзеля свае маніі, хоча яе змяніць. Паглядзім, ці дадуцца грамадзяне Беларусі папасці на кручок Лукашэнкі другі раз ці не?

**Ю. Весялкоўскі**
**(Лондан)**

# Сумны беларускі лістапад

*(працяг са стар. 1)*

вы рэферэндум, — сказаў Лукашэнка, — будзе паказчыкам даверу грамадства Беларусі да палітыкі прэзідэнта. Лукашэнка пераконваў расійскія дэпутатаў, што Беларусь — гэта багатая краіна, а „белорусы" гэта працавітае і спакойнае насельніцтва. Беларуска-рускае аб'яднанне, — гаварыў прэзідэнт, — знаходзіцца перш за ўсё ў інтарэсе Расіі. У Беларусі, — падкрэсліў ён, — ніхто не б'юць, няма крымінальнікаў. Шмат увагі прэзідэнт адвёў патрэбе папулярызацыі хрысціянскіх каштоўнасцей у Расіі і Беларусі. Аднак неўзабаве прадэманстраваў ён свае, ужо не зусім хрысціянскія, адносіны да беларускай апазіцыі і расейскіх дэмакратаў. Гэтыя апошнія выйшлі з залы, калі прэзідэнт пачынаў сваё выступленне.

З 9 да 24 лістапада праходзіў у Беларусі нейкі фарс званы рэферэндумам. Змаганне Лукашэнкі з Вярхоўным Саветам і Канстытуцыйным судом, незаконнае адкліканне старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара, калоны міліцыі і амонаўцаў на вуліцах Мінска, сцэны падобныя як падчас ваеннага становішча ў Польшчы расслаўлялі Беларусь у свеце, як краіну палітычна нестабільную, з уладай, якая імкнецца ліквідаваць сваю дзяржаву і аднaчасова патрабуе ад народу згоды на таталітарную сістэму.

17 лістапада амаль усе еўрапейскія тэлекампаніі паказвалі будынак Вярхоўнага Савета Беларусі, акружаны амонаўцамі і міліцыяй, пікеты і дэманстрацыі на вуліцах Мінска. Дзень пасля дэпутаты сабралі адпаведную колькасць подпісаў, каб пачаць працэдуру адхілення Лукашэнкі ад прэзідэнцкага паста. Мінскае тэлебачанне тым часам хваліла „усенароднаабранага", граміла яго праціўнікаў. Каментатары сусветных сродкаў масавай інфармацыі задумваліся, хто стане пераможцам у гэтым канфлікце, якое становішча прыме Масква. Весткі з Мінска друкаваліся на першых старонках еўрапейскіх газет, кожныя навіны ў польскім радыё і тэлебачанні пачыналіся ад інфармацыі са сталіцы Беларусі, а прэзідэнт, Сейм і ўрад Рэчы Паспалітай упершыню, пасля двух гадоў аўтарытарнай улады Лукашэнкі, нясмела выказаліся ў падтрымку апазіцыі.

Рашучасць парламента Беларусі і няўпэўненасць Лукашэнкі памаглі прэм'ер-міністру Міхаілу Чыгіру прыняць рашэнне аб сваёй адстаўцы. Разам з шэфам урада адышло трох яго міністраў. 17 лістапада Канстытуцыйны суд пачаў разглядаць прапанову Вярхоўнага Савета аб адкліканні прэзідэнта. Яшчэ раз аб'явіў аб тым, што Аляксандр Лукашэнка парушыў канстытуцыю. І на гэтым магчымасці законных дзеянняў парламента скончыліся. Прыхільныя Лукашэнку дэпутаты з фракцыі „Згода" не з'явіліся ў парламенце, выклікаючы такім чынам брак кворуму, неабходнага для прыняцця якога-нябудзь вырашэння.

21 лістапада на мітынгу ў Брэсце Лукашэнка крычаў, што не аддасць улады „ніякім авантурыстам з Вярхоўнага Савета ні другім агентам замежных сіл". А ўжо на другі дзень раніцай Мінскае радыё паведаміла, што ў сталіцу Беларусі прыбыў прэм'ер-міністр Расіі Віктар Чарнамырдзін і прывёў спадара прэзідэнта і спікера парламента да паразумення. Гэтым самым паказаў ён, хто ў сапраўднасці вырашае пра сітуацыю ў Беларусі.

Для будучыні Беларусі, аднак, не мае ўжо ніякага значэння далейшы ход падзеяў, калі б надалей галавой дзяржавы застаўся Лукашэнка. Без адстаўкі прэзідэнта кантакты з вонкавым светам будуць звычайна замарожаны, а без гэтых кантактаў немагчымае якое-небудзь вырашэнне гаспадарчых праблемаў краіны. Абазначае гэта прадаўжэнне стану безнадзейнасці і агульнага абсурду ва ўнутранай палітыцы краіны. Песня Касі Камоцкай „Прэзідэнт ідзі дамоў" сёння можа быць толькі адзінай малітвай грамадзян Беларусі.

**Яўген Міранові**

# Заява

Беларускі саюз у Рэспубліцы Польшча з вялікай занепакоенасцю наглядае за развіццём палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Антыдэмакратычныя дзеянні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, падпарадкаваных яму службаў і дзяржаўных устаноў, вядуць да стварэння таталітарнай дзяржаўнай сістэмы ў цэнтры Еўропы.

Звяртаемся да ўрадавых і пазаўрадавых арганізацый і грамадскай думкі ў Польшчы, а таксама да міжнароднай грамадскасці з заклікам аказаць салідарнасць з гэтымі сіламі і асяроддзямі ў Беларусі, якія гарантуюць зберажэнне дэмакратычнай і суверэннай беларускай дзяржавы.

Беласток,
18 лістапада 1996 г.

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 443

Рэдактар: Сакрат Яновіч

Віктар ВАРАШЫЛЬСКІ

## Нарэшце нешта вясёлае

Напісаў бы ты нарэшце нешта вясёлае
я ж цябе ведаю
можаш смяяцца ўсцешана
чаму ўсе вершы
у чорным
з грымасаю што досыць жартаў
Напісаў бы ты
сам сабе паўтараю з папрокам —
Усё ж
можаш
сняжынкай талаю першай на шчацэ
тупа разяўленым сабарном старым
звыклым жыццём сваім
і што нічога не баліць
і ўсякім дуралобствам

Памятаеш
хвіліну шчаслівасці
калі ў новай камеры ў Белалонцы
цераз акно кратаў
лінула хваляй блакітнай
промнем з хрыбтом у золаце лускі

Тую ў горадзе
што над вадою хуткаплыннай
пасярэдзіне неаб'яўленай вайны
са спакоем іранічным з паблажкай
пад ветразем ранішняга ўзвеву

Радасць якая
дакрануцца
нотаў
глытка ў сухім горле
і што зноў колькі словаў прыслала
нічога што горкіх

Ты несумненна ведаеш і аб тым
што і ў праміманні саладосць
у беззваротнасці сэнс
у тым што ўсяму свой канец суцяшэнне

Не сумуй мой сябра
дазволь мне ўсміхнуцца
успомні як ты ўмееў
жыць з гумарам

Добра (абяцаю)
я пастараюся
мабыць заўтра
магчыма яшчэ сёння
удасца мне напэўна ўдасца

*Пераклаў С. Я.*

Сакрат ЯНОВІЧ

# Змаганне з поўхам

Поўх пачаў рыць на Яна. Паміж прышчэпнымі малінамі варшаўскімі і французскімі ружамі, паскуднік. Я не шкадаваў бы яму пажыць у маім садзе, калі б не крушняваў у ім вульгарныя купы зямлі; паласаваў ангельскую траўку выпуклымі норамі, у якія пагразала італьянская касілка.

Разлічваючы на інстынкт страху ў валакітнага звярка, я злосна таптаўся па тым месцы гаматнымі беларускімі боцікамі, адганяючы яго ў блізкі агарод Зоські Бабы-з-Яйцамі. І нават скакаў; заўважыў тое нейкі местачковы высалапень — распавёўшы людзям, што я прышалеў (гультаі падгледжвалі мяне за платамі Каўказскага завулка).

У энцыклапедыі прыроды дачытаўся: поўх жыруе ў раніцу і ўвечары. Давай тады падпільноўваць яго з рыдлёўкаю напагатове. Але, баязлівец, таіўся, бы вуж, здалёку ўчуваючы скрадлівыя крокі. Каторагасьці адвячорку — маю варту зразумела па-свойму Зоська, рассеўшыся тым часам у прыбіральні, што ледзь чыпела ў слівах у заплоцці (апошні твор яе недарэкаватага нябожчыка мужа). Туды яна цяпер наведвалася ўсё подбегам, чамусьці задраўшы спадніцу; з усходам сонца і ў захад, а такое рэгулярнасці не было ў яе раней. І вось разрагаталася ў той гародняй архітэктуры з учарнелых аполаў, непрыстойна соладка і дзіўна страшна...

Я змяніў тактыку змагання з поўхам. Настругаў ветрачкоў, уведаўшы ад кагосьці, што шкоднік баіцца вібрацыі. Не маючы практыкі ў тым, бы хлапчаня ў майстраванне сабе самалёцікаў, пакалечыў пальцы. Заюшаны, паджгаў у аптэку за бінтамі і ёдам; у мястэчку адразу паверылі, што дабіраўся я да куслівае Бабы-з-Яйцамі. No comment! — успеніўся я невядома чаму на мове імперыялістаў. Маё абурэнне надта спадабалася мужыцкім апалячэнцам: Nie kontent — пракаментавалі і зноў загаварылі між сабою на ганебна-роднай.

Ветрачкі не памаглі: рыў, як рыў! У тэлевізарскай перадачы для агароднікаў сказалі аднойчы пра жахі поўху ад укопаных у грунт пустых бутэлек без коркаў: посвісты ветрыку ў іх шыйках даводзяць паўсляпога рыйніка да панікі! Я, не будучы п'яніцаю, тайна падаўся прыцемкам у пошукі тае пасуды па сметніках за гаспадою, знаходзячы ўсё замежнага вырабу бутлягі, бо гэткіх не прымалі на замен ад сінемордых кліентаў. У сонечны полудзень усенька тое чужаземнае харасто непатрэбна праменілася ды бліскацела на травяністай гладзі, што выклікала пярэпалах у маёй бойкай суседкі і яна прывяла паліцыянта. Сяржант пахадзіў між шклянымі вярхамі, усё роўна што па мінным полі; пакасіўся і на ветрачкі; абгледзеў рыдлёўку, памацаўшы трэснуты чаранок, пасля чаго запытаў у мяне, ці ведаю, што поўх знаходзіцца пад аховаю закона аб рэдкіх гатунках фауны. Я, вядома, ахнуў ад здзіўлення! Адначасна і ўпалохаўся не ў жарт, каб не налез ён пад паветкаю на банку з карбідам ды каністру з бензінам, надоечы прыдбаныя мною ў зладзеяватых механікаў. Яны хваліліся вынікамі барацьбы ў сябе з поўхам. Гарантавалі: — Як засунеш, пане, тое ў тую дзіру ды высокаактанавай жаўтухою зальеш яе, а потым запалку туды кінеш, дык ракетаю жыгане адтуль, аж паночку, і поўха аж на нябесны месяц шпурне лычом навыварат, га-га-га!.. Або скрозь зямлю-планету прасадзіць яго, проста ў Амерыку пекнай Клінтаніске пад фартушок, гэ-гэ-гэ!

Згадка таго боўта пра янкі навеяла мне думку пакарыстацца папулярным у заморскіх дэмакратаў пакараннем смерцю на электрычным крэсле. Мой поўх усё ж не павінен пакутна канаць у полымі, не пры сярэдневяковай інквізіцыі жывем жа: запушчу яму ў падзямелле фазу ў дзвесце дваццаць вольтаў, і ціха-ша! Аддаўшы затым мільён на даўжэрны кабель, правёў я на поўхава згіненне моц туды ад разеткі ў летняй кухні, для бяспечнасці закінуўшы провады на нізкарослае галіноўе фруктовых дрэў. Гэта зацікавіла малпаватых разяваў і, на маю бяду, Зоську Бабу-з-Яйцамі. Пакуль што і да чаго аднак, поўніўся я радасцю тэхнічнага рацыяналізатара, калі прыемна чуцьчуваў раптоўны віск у вечарэючым агародзе або ў святлеючы дзень, як толькі націскаў уключальнік ля дзвярэй з ганка на падворышча. Пусканўшы тых вольтаў з амперамі, выбягаў з батарэйкаю ў руцэ пабачыць, ці ўжо вылез поўх у канвульсіях імгненнай агоніі... Але, замест таго далятаў да маіх вушэй імклівы трэскат штыхетаў ды — быццам чортавы — тупат у нябачнай цемры. Пра гэты загадкавы вэрхал дадумаўся я назаўтра: у малінніку калыхалася чыясьці зашмальцаваная шапка.

А Зоську лёс спакусіў напрыканцы тыдня. Модзячыся суботнім прысвяткам (а я якраз падключыў быў „устройства", надумала разрумяненая ўдовіца занадзіць мяне да сябе, прыкінуўшыся сімпатычна заінтрыгаванай тымі канструкцыямі ў ружова-малінавым закуцці: драцянымі спіралямі, шпянямі тырчма, таемнымі электродамі. Не паспеў заенчыць на яе, каб не ішла, як тут жа брыкнула яна, бы ў валянтове закаціўшы вочы пад лоб! Мігам адключыўшы апаратуру — з дранцвеючым пачуццём некалі адкінутай ад сябе нямецкай гранаты, — я падхапіў бабу ў гінекалагічнай позе ды прыпёрся з ёю ў спальню: адратаваў, лыжачкай поячы салёнай для электралітычнай нейтралізацыі вадою.

Пайшла гуляць плётка, што зрабіў ёй аборт.

Поўх перабраўся пад яблыню-манастырку і ўзяўся рыць яшчэ больш заўзята. Уз'еўся на тыя бутэлькі, перакідаючы адну за адною, і цяжорную з-пад рускага шампанскага.

Камбінуючы, што мне з ім далей чыніць, запыніўся я, урэшце, на тым банальным факце, што маю дачыненне з мясаедным стварэннем. Даўно трэба было так надумаць, а не слухаць неінтэлігентных выдумак! Нарыхтаваў атруты, нарэзаўшы — кшталтам чарвякоў — сырога мясіска, якое вымачыў у зверабойным растворы на пацукоў. Заклаў у норы. Поўх, пэўна, насмакаваўся б майго браканьерскага частунку, калі б не выпіхваў ён зямлю са смакоццем наверх... Знюхалі прэпарат валачашчыя каты і неўзабаве выкаціла іх да астатняе нагі. Адбегшыся, здыхалі ў задворках вуліцы, стаючыся безабароннай спажываю ўдзічэлым сабакам. Цюцікам не паздаровілася такая кашэчына, хоць выжылі, валяючыся і выючы, бы дварнякі па нябожчыку ў гаспадарцы.

Гмінны ветэрынар прывёз эпідэміялагічную камісію. У таварыстве каменданта паліцыі хадзілі акулярнікі з двара ў двор, шукаючы прычыну заразы. Справа аказалася няпростай дзеля выяўлення, бо сканаўшых кісаў паелі псы, якія пасля разбегліся здаравец у завыганскіх гушчавінах.

Нарабіўся і я сам, стрымгалоў дэмантуючы немалую за гэты час сістэму знішчэння поўха — бутэлькі пабіў і закапаў, ветрачкі папаліў у печцы цэнтральнага ацяплення, электратэхніку шпурнуў у апухі на гарышчы. Утрамбаваў нарыны. Засталося дагадзіць гаварлівай Бабе-з-Яйцамі, каб не ляпнула чаго камісантам. Як апараны паспеў наведацца да яе з малдаўскім каньяком за пазухаю, з шакаладкамі; прымусіўшы сябе ўсміхацца сімпатычным дурнем.

Усё адбылося ў тэмпе і наўздзіў гладка. Можна сказаць: Так добра, што аж нядобра!

— Рые? — запытала Зоська гарачымі губамі; мы абое ўжо былі пасля трэцяй чаркі.

— Ага, — выдыхнуў я, вызваляючыся з яе ўчэпістых абдымкаў.

— Гэта на наша шчасце, — сказала з далёкім намёкам.

— Няхай рые, хай яго халера возьме! — пракляў я зльдня і абсунуўся ў сон.

## Сцяг

*(Словы Сяргея Панізніка Музыка Міколы Яцкова)*

Светлым полем я нясу
агнявую паласу:
як маланка, нада мной
зіхаціць над галавой
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы, — 2 р.
сцяг мой бел-чырвона-белы.

Быў адважны продак мой
у пагоні баявой.
Той пагоні чую звон:
хай нясецца наўздагон
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы, — 2 р.
сцяг мой бел-чырвона-белы.

Залунай на ўвесь прасцяг,
агнявых вякоў працяг:
ёсць Дзяржава, ёсць Народ!
Развінайся — і ў палёт,
сцяг мой вольны,
сцяг мой смелы, — 2 р.
сцяг мой бел-чырвона-белы.

## Світальная зорка

*Максіму Багдановічу*

*(Словы Сяргея Панізніка Музыка Міколы Яцкова)*

З промнямі песні прымала Радзіма
Светлага Бога пранiклiвы зрок.
Свеціцца слова — і зорка Максіма
Нам прамаўляе зарок:
— На шлях Беларусі з нязведанай сіні
Ступіў ён — не спыніцца крок.

З песняй кахання ўзнадзеіцца вера.
Промні пастукалі ў шыбу акна,
Каб над Ай-Петры не смягла Венера —
Як пры Максіме — адна.
— На шлях Беларусі свайго кавалера
Прыклікала Доля-Вясна.

Нас не зрачэцца сузор'е Спаткання.
Зорка Максімавай светлай душы
Кожнаму з нас пуцяводнаю стане
Ў вечнай касмічнай цішы:
— На шлях Беларусі прынёс ён світанне.
Дзяржаве світальнай служы!

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Дзеці з беларускага прадшколля, „старшакі", з працаўнікамі „Нівы".* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Незвычайныя госці

13 лістапада ў нашу рэдакцыю прыйшлі незвычайныя госці. Гэта былі дзеткі з беларускага прадшколля ў Беластоку. Яны разам са сваёй настаўніцай Евай Гняздоўскай упершыню завіталі ў „Зорку". Ужо і раней мы часта сустракаліся. Асабліва ў час рэпетыцый тэатральных п'есак ці прадшкольных свят.

Усе працаўнікі „Нівы" вельмі ўзрадаваліся сустрэчай з дзеткамі. Малюткі пазнаёміліся з новымі „цёцямі" і „дзядзькамі", праспявалі нам чароўныя беларускія песенькі. Іншыя дэкламавалі вершыкі. Найдаўжэйшы верш сказаў шасцігадовы Міхась Хмялеўскі. Многія дзеткі ведаюць ужо „Зорку". Бацькі чытаюць ім зорчыны казкі і вершыкі. А згаданы Міхась умее ўжо і сам тое-сёе прачытаць па-беларуску.

Пасля песень, вершыкаў і конкурсу, у час якога дзеткі атрымалі беларускія кніжачкі, нашых госцікаў чакаў салодкі пачастунак.

На добрую згадку пра нашу незабыўную сустрэчу мы зрабілі супольны здымак. Да наступнай сустрэчы, каханыя дзеткі!

**ЗОРКА**

## Ярыла

20 снежня, калі пачынаецца зіма, бог сонца Ярыла выязджае на сваім белым кані зямлю „звязваць". Пасля перамогі маці Ярылы Лада адмыкае зямлю і выпускае на свет траву, кветкі, птушкі і тады (25 сакавіка), у вянку з кветак і на белым кані прыязджае вясна. Вясну абвяшчае бусел. У дзень 25 сакавіка пяклі пячэнне ў форме бусла або яго частак (галава, крыла, лапы — залежна, хто што ўмеў), а пасля раздавалі дзецям, знаёмым і бедным.

У 1330 годзе полацкі князь Нарымонт даў свайму княству герб (ад нямецкага слова *Erbe* — спадчына): рыцара на белым кані з мячом над галавою і крыжам Ярылы на шчыце і назваў герб „Пагоня".

Крыж Ярылы мае шэсць канцоў і абазначаюць яны стораны свету: поўдзень, поўнач, захад, усход, ніз і верх. Стаяў гэты крыж у Вільні, дзе цяпер знаходзіцца кафедра; крыж звалілі, а на яго месцы паставілі кафедру.

**Аўгіння Ярмалковіч**

## Польска-беларуская крыжаванка № 48

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Wąż / Burza | | Rzepka | | Laur | Rycerz | |
| | | | | Strach | | Kana |
| Malec, berbeć | | | | | | |
| | Praca | | | | | |
| | Róg / Grawiura | | Chan | | | |
| | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 44:** ток, чахол, лета, каларадскі жук, самакат, чара, час, сала, хам, гора, лак, тост, кліч, ежа, тур, чака.

Узнагароды — сегрэгатары — выйгралі: **Дарота Харкевіч**, ПШ у Дубінах, **Агнешка Івацік**, ПШ у Старым Корніне, **Бажэна Ахрымюк** з Падбаравіска, **Малгажата Базылюк**, ПШ н-р 3 у Бельску- Падляшскім, **Кася Наскоўская**, ПШ у Нарве, **Іаанна Германовіч**, ПШ у Махнатым, **Раман Несцярук**, ПШ у Гарадку і **Губерт Гайдучэня**, ПШ у Гарадку.

Віншуем!

Узнагароды можна атрымаць у „Зорцы" або чакаць іх у сваёй школе.

## Вершы Віктара Шведа

### Кароткая памяць

Скардзіцца матулі Сашка,
Уздыхаючы глыбока:
— Запамятаць надзвычай цяжка
Усё, што чую я на ўроках.

Азвалася на гэта мама:
— Калі ў сапраўднасці ты ў школе
Кароценькую маеш памяць —
Тады вучыся ў хаце болей.

### Аднолькавы густ

Валодзік увайшоўшы ў клас
З сябрам пачаў спрачацца:
— Той вучань, што прыйшоў да нас,
Не можа падабацца.

— Не падабаецца — чаму?
Дружыць ён хоча з намі.
Не падабаешся яму
Чамусьці ты таксама.

### Лысы як калена

— Скажы, мілы татулёк, —
Запытала Лена,—
Чаму гэты вось дзядок
Лысы як калена?

— Пазбаўляе нас красы
Наша жыццяя восень.
Бачыш, выйшлі валасы.
— Злавіць не ўдалося?

## Пішуць школьнікі

### Восень

Хачу Табе, „Зорка", расказаць, як выглядае восень у маёй вёсцы.

Прызнакі восені відаць ужо на пачатку верасня. З дрэў падаюць каштаны, жалуды і лісце розных колераў: зялёнае, жоўтае, чырвонае, аранжавае, бурае, карычневае. Пад уплывам подыху ветру лісце кружыцца ў паветры, пад дрэвамі сцелецца рознакаляровы „дыван". Надвор'е халоднае. Часта імжыць дробны дождж. Птушкі адляцелі ў вырай. Палі апусташэлі. Ранняй восенню людзі збіралі з поля бульбу. У садзе даспелі яблыкі і грушы. Каля дарогі чырванее рабіна. Раніцай часамі ёсць прымаразкі. Усюды відаць вялікія змены ў прыродзе, бо яна пачала падрыхтоўвацца да зімовага сну.

**Ірэна Драўноўская**
**Катоўка**

### Дыскатэка

17 кастрычніка ў Нарве адбылася дыскатэка. Настаўніца і вучні запрасілі дзяцей са школ у Курашаве і Крыўцы.

Прыехалі яны а трэцяй гадзіне. Спачатку была дыскатэка. Калі ўсе пачалі танцаваць, арганізатары мерапрыемства падрыхтавалі „шведскі стол". Кожны падыходзіў да яго, браў штосьці для сябе. Пасля ўсе зноў танцавалі. Ніхто не наракаў, што дрэнна гуляецца. Некаторыя з нас пазналі новых сяброў. Пасябравалі. Час мінаў хутка, бо мы ўсе весела гулялі. Мы не заўважылі, калі на двары пачало цямнець. І яшчэ адна песня, і яшчэ адна... Так хутка ляцелі хвіліны.

Надышла гадзіна ад'езду. Усім нам было цяжка развітацца. Мы дамовіліся, што будзем трымаць сувязь.

**Аня Садоўская**
**Нарва**



Талон „Зоркі" № 48
1.12.1996

# Беларуская мова і дыпламатыя

У XV стагоддзі ў большасці краін Еўропы дыпламатычныя дакументы пісаліся на лацінскай мове. Гэтай мовай карысталася таксама беларуская эліта ў зносінах з дыпламатамі Нямеччыны, Італіі, Францыі і другіх неславянскіх краін. З суседнімі дзяржавамі кантакты ўтрымоўваліся на беларускай мове. У самым Вялікім княстве Літоўскім гаварылі на ёй — апрача беларусаў — літоўцы-жэмайты, яўрэі, татары, расейцы, цыганы. Беларуская была афіцыйнай мовай у дыпламатычных зносінах Вялікага княства з Масквою, Малдоваю, Валахіяй, Інфлянтамі.

Калі Ягайла стаў каралём Польшчы, усе дакументы кракаўскага двара пісаліся на гэтай мове. Яшчэ ў палове XVII стагоддзя карэспандэнцыя паміж Польшчай і Масквою вялася на беларускай мове. Пакуль існавала самастойнае Вялікае княства Літоўскае, беларуская мова была мовай міждзяржаўных дачыненняў краін усходняй Еўропы.

## Як нашы продкі свае сядзібы закладалі

Ці ведаеце, што нашы продкі вельмі старанна падбіралі месца для пасялення? Напэўна яны не пасяліліся б на тым месцы, дзе раней стаяла лазня, блізка дарогі, на магільніку ці непадалёк яго.

Дзеля таго, каб правесці тэст выбранай тэрыторыі, трэба было па вуглах будучай хаты пакласці зерне і пакінуць яго там на трое сутак. Калі яно заставалася некранутым, абазначала гэта, што месца будзе добрым пад пабудову.

Дамы будаваліся з дрэва. А тут ізноў сустракалася перашкода. Сілам прыроды прыпісваліся розум і адухаўленне. Хаця дрэвы не былі помслівымі, то ў іх нетрах жылі духі, якія маглі раззлавацца і пашкодзіць у здзяйсненні плану. Таму на месцы зрубанага дрэва трэба было ў ахвяру закапаць пеўня.

Пазней прастору хаты трэба было „абжываць". „Сваім" лічыўся дом толькі пасля таго, калі хтосьці ў ім памёр і хтосьці нарадзіўся. У гонар нараджэння дзіцяці беларусы садзілі новае дрэва.

**Яна Кандрацюк**



*Калектыў „Жураўінка" з Бельска-Падляшскага.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Успаміны з канікулаў

У час канікул я пабывала ў цырку. Былі там пеўні, папугаі, сабака, які цягнуў на малой калясцы малпу. Выступалі таксама розныя артысты.

Я наведала таксама цёцю. Яна жыве ў Гайнаўцы. У яе ёсць тры дзяўчынкі: Агнешка, Люцына і Моніка. Мы разам хадзілі ў магазін і на рыначак. Там я была два тыдні.

Найбольш часу я правяла ў хаце. Я памагала бацькам у гаспадарцы. Гуляла з сябрамі з вёскі. Іх завуць: Аня Крук, Ася Мялешка, Андрэй Крук, Марцін Мялешка, Адам Янюк. Гуляла я таксама з сястрычкамі: Касяй, Эляй і Басяй. Да нас прыязджала дачка цёці — Агнешка. У садзе з дапамогай маёй мамы мы зрабілі гамак, з якога ўпала Агнешка. Хадзілі мы таксама на фэст у Трывежу, цэлай сям'ёй і яшчэ з Агнешкай і сяброўкай Асяй Мялешка. Глядзелі мы тэлевізар, збіралі зёлкі, хадзілі ў лес па грыбы. У лесе мы елі суніцы і маліны. Найбольш часу я правяла з „Нівай" і „Зоркай". Чытала там пра фэст у Трывежы і Бельску, а таксама казкі і вершы Віктара Шведа.

**Ірэна Драўноўская,**
**VI клас ПШ у Новым Корніне**




*Малюнак Петруся ДЗЕМЯНЮКА*

# Брат — баран

***(беларуская народная казка)***

Жылі-былі брат і сястрыца. Дзяўчынку Раінкай называлі, а хлопчыка Ясем. Дзеці сіроткамі былі, самі гадаваліся. Пайшлі яны аднойчы ў свет. Ідуць-ідуць, ідуць-ідуць, хлопчыку піць захацелася. Да таго смага яго мучыць пачала, што ледзь не заплакаў малы ад таго гора. Аж бачыць — вада ў конскім капыце.

— Сястрыца Раінка, нап'юся я з конскага капыта?

— Не брацік, не пі, бо конікам станеш!

Ідуць яны далей, аж хлопчык знайшоў каровінае капыта.

— Сястрычка Раінка, нап'юся я з каровінага капыціка?

— Не пі, браце, бо кароўкаю станеш, — угаварвала як умела Раінка малога.

Але Ясю так вады хацелася, што і сястры не паслухаў. Пабег ён уперад, пабачыў там ваду ў барановым капыціку і напіўся з яго. А як напіўся, адразу бараном зрабіўся. Заблеяў, угору падскочыў, ды да Раінкі падбег.

— Ой, брацiку, — загаласіла Раінка, — што ж ты зрабіў! Што мы цяпер з табой рабіць будзем?

Але жыць трэба было. Ішлі яны, ішлі, у лесе маленькую хатку сустрэлі. Такую на курынай лапцы. У хатцы кросны стаялі. Села Раінка кросны ткаць, а брат-баран пачаў цэўкі сукаць. Тым часам ехаў пан па дарозе. Зайшоў ён у хатку і дзіва пабачыў. Спадабалася пану Раінка. Ён і замуж яе захацеў браць.

— Не, — кажа Раінка, — я не адна. У мяне яшчэ брат-баранчык.

Расказала дзяўчына пану пра непаслухмянага Яся, і пра тое, як ён бараном стаў.

— Ну, нічога, — сказаў пан, — забяру і барана разам з Раінкай.

У двары Ясю-барану хлеўчык паставілі. Парабкі яго дагледалі, сенам кармілі. Але абрыдла ім барана гадаваць.

— Каб авечка, то хаця б ягнят прывяла, — гаварылі парабкі. — А так няма ад яго карысці. Трэба яго зарэзаць, — рашылі парабкі.

Так і зрабілі гэтыя слугі. Аднак не было ім спакою. Зарэзаны баран у хлопчыка зноў абярнуўся. Пабачылі тое парабкі ды паўцякалі ад перапуду ў лес.

Даведалася аб усім Раінка. Пабачыла нежывога Яся, галасіць пачала. Яе гарачыя слёзы ўпалі на сэрца хлопчыка і ён тады ажыў. Расказала пра ўсё сястрыца брацiку. Доўга яны гаварылі, вернутым жыццём цешыліся. Ясь малайцом слаўным стаў. І ўсё жыццё добрых людзей слухаў, калі яму добрую раду дарылі.

**Зорка**

# Настаўніца

Я люблю настаўніцу маю.
Вось яна і мілая,
Вось яна і дбайная.

Ахвяроўвае яна свой час,
Вучыць нас пісаць і чытаць.
Усялякіх сіл дакладае,
Каб навучыць нас як мага
найлепш
Сучасны свет зразумець.

**Сільвія Ракіцкая,**
**кл. V „а" ПШ у Нарве**

## Вясёлы куточак

— Татка, што гэта такое?
— Гэта чорныя ягады.
— А чаму яны чырвоныя?
— Бо яны яшчэ зялёныя.

* * *

Настаўнік да вучня:
— Коля, завядзі гэтых археолагаў у тое месца, дзе ты знайшоў тыя старыя манеты.
— Гэта немагчыма.
— Чаму?
— Бо сёння музей закрыты.

* * *

На ўроку рэлігіі бацюшка пытае дзяцей:
— Хто з вас хоча пайсці на неба?
Усе дзеці паднялі рукі, апрача Вані.
— А ты, Ваня, не хочаш на неба?
— Не магу: абяцаў маме, што зараз пасля ўрокаў прыйду дадому.

* * *

— Мамачка, ці магу пайсці на панадворак пагуляць?
— З такою дзіркаю ў штанах?
— Не, з Варкаю з трэцяга паверха.

* * *

— Татка, колькі кіламетраў даўжыні мае Ніл?
— Не ведаю.
— А кім быў Якуб Колас?
— Не ведаю.
— А сталіцай якое дзяржавы з'яўляецца Мінск?
— Не ведаю.
— Сыночак, — умешваецца маці, — не муч так бацькі.
— Не перабівай, дарагая, дзіцяці! — просіць бацька. — Калі не будзе пытаць, нічога не будзе ведаць.

Даслаў **Андрэй Гаўрылюк**

# Загадкі пра хатнія птушкі

1) У нашай нявесты сарочак дзвесце, выйдзе на двор, вецер павее — цела відно.

2) Ходзіць цар па градзе, носіць блін у барадзе.

3) Надзьмута, як мех, белая як снег, на лапатках ходзіць, рогам траву есць.

**Зорка**

# Смурод застанецца

Гэтае здарэнне ўскалыхнула ваколіцай. Агульна паважаны трыццацішасцігадовы настаўнік быў зняты з пасады за сладастрасныя паводзіны з непаўналетнімі вучаніцамі. Родная вёска, усе ўсіх ведаюць ад малога. А тут паліцыя, цяганіна, допыты, суд. Пайшоў смурод.

Калі чытаеш акты справы, робіцца няёмка, месцамі — млосна. Паліцыянт дапытвае, у прысутнасці выхавацельніцы, вучаніц старэйшых класаў пачатковай школы. Тыя расказваюць, як настаўнік пакідаў іх пасля ўрокаў або казаў прыходзіць раней папраўляць ацэнкі. Давучваў — звычайна, па адной — рыхтаваў да дэкламатарскага конкурсу або праводзіў рэпетыцыі школьных спектакляў. Заўсёды бывала так, што заставаўся ў класе сам-насам з дзяўчынкай. І тады, як яны расказваюць, „гладзіў па галаве, руках, прытуляўся ззаду і спераду, датыкаў грудзей, рукі яму дрыжалі, рабіўся чырвоны на твары".

— Раз на экскурсіі ў лесе гуляў з намі ў хованкі, — гаворыць вучаніца, — мы хаваліся, а ён шукаў. Хутка знайшоў маю сяброўку і на гэтым пошукі спыніў. Пачаў пытаць пра ўрокі, прытуляцца да яе. Калі заўважыў, што я стаю непадалёк і ўсё бачу, адскочыў ад яе.

— У час такіх дадатковых заняткаў, бывала, — расказвае паліцыянту іншая дзяўчынка, — настаўнік абмаў мяне не толькі рукамі, але і нагамі, рабіў дзіўныя рухі. Чухаўся ля прарэза штаноў (сваіх).

Гэтыя практыкі, паводле сведак, цягнуліся гадамі. Зацікаўленне настаўніка дзяўчынкамі канчалася дзесьці ў сёмым класе. Потым перакідаўся на меншыя. У пратаколах паяўляецца вучаніца трэцяга класа, да якое настаўнік, хаця яе не вучыў, стараўся наблізіцца. Глядзеў, быццам бы, на яе інакш чымсьці на іншых, хадзіў за ёю па калідоры на перапынках, шукаў нагоду пагаварыць.

Кончылася гэта, калі адна дзяўчынка, плачучы, паскардзілася бацькам, што настаўнік ёй самой кажа заставацца пасля ўрокаў, хаця яна добра вучыцца. Падрабязнасці доўга затойвала, адно прасіла, каб і сяброўчыны бацькі не пускалі сваю дачку на такія сустрэчы з настаўнікам. Бацькі адрэагавалі пісьмовай скаргай, справа трапіла ў пракуратуру, учыніўся скандал. Дырэктар школы, не чакаючы судовага рашэння, зняў настаўніка з пасады. Хаця раней выставіў яму добрую рэкамендацыю на пісьме.

Паказанне самога настаўніка напісанае крывымі літарамі — відаць хваляванне, знерваванасць аўтара: „Гэта ўсё брудныя плёткі, паклёпы". У падрыхтоўцы інтрыгі настаўнік абвінавачвае дзве свае школьныя сяброўкі, якім не падабаліся яго прафесійныя дасягненні і добрая ацэнка яго працы як дырэктарам, так і куратарыяй. Другая прычына, гэта тое, што не хапала ў іх школе штата аднай настаўніцы пачатковага навучання — сяброўцы дзвюх „інтрыганак" — і ён першы ў такім унутраным плебісцыце выказаўся за яе звальненне. Трэцяя прычына помсты была вельмі асабістая.

„Адна настаўніца, — чытаем у паказанні, — гэта саракагадовая панна. Яна была злосная, што я, хаця кавалер, не цікаўлюся ёю. Але яна калека і я ёй спачуваю, аднак не мог бы да яе фізічна наблізіцца. Другую, хаця замужнюю і з чацвярымі дзецьмі, цікавяць усе мужчыны. Яна не раз казала ў школе, што адчувае патрэбу. Невыпадкова гэтую бязглуздзіцу нагаварылі вучаніцы яе класа. Каб я такога дапусціўся, у чым мяне абвінавачваюць, я ж быў бы дэгенератам".

На падставе паказання відаць, што настаўнік адчувае сябе быццам у пастцы. Каб даказаць сваю правільную сексуальную арыентацыю, тлумачыць пракурору нават, чаму ён кавалер. Маўляў, жыццё так склалася. Доўга жыў у бацькоўскай хаце, а якая цяпер дзяўчына пойдзе замуж на вёску?

Ці судзіць яго за тое, што ён больш за іншых настаўнікаў займаўся з вучнямі? Рабіў гэта толькі з думкаю пра іхняе дабро. Ды на каго можна было ўскласці дадатковыя абавязкі, такія як хаця б апека над вучнёўскім самакіраваннем, як не на яго — несямейнага?

Настаўнік быў зняты з пасады вясною. У куратарыю паступіў пратэст бацькоў; падпісаліся пад ім дваццаць тры асобы. Усе яны былі задаволены працай настаўніка з іх дзецьмі, высока ацанілі яго прафесіяналізм, выказалі яму свой давер. „Набліжаецца канец школьнага года, а нашы дзеці пазбаўлены свайго настаўніка, — чытаем у пратэсце. — Васьмікласнікаў, якіх ён навучаў на працягу многіх гадоў, чакаюць уступныя экзамены ў сярэднія школы. Мы баімся, што менавіта яны найбольш пацерпяць ад гэтага закалоту".

Суды пачаліся восенню. Канца іх, пакуль, не відаць. Незалежна, аднак, ад канчатковага судовага вырашэння, настаўніку наўрад ці ўдасца вярнуць страчаную рэпутацыю. А як гэтая падзея паўплывае на дзяцей? Адным словам, смурод застанецца.

**Мікола Ваўранюк**

# Лёгкая форма п'янства

Тыповыя формы рэкламы — прыгожыя ў газеце ці ў тэлебачанні — людзей ужо не бяруць. Што іншае даць чалавеку дакрануцца, панюхаць, палізаць, выпіць.

— Нам рэклама непатрэбная — хітра падміргнуўшы кажа Яраслаў Тадарчук, дарадчык па пытаннях смаку віна фірмы Rhein Wein. — Вядома, што добры тавар рэкамендацыі не патрабуе.

Субяседнік наш здаецца быць добра азнаёмлены з беларуска-беластоцкай рэальнасцю.

— Trafiacie Państwo, — сціпыўшы голас кажа пан Ярак, — do specyficznego kręgu odbiorców. Może i u nas będą amatorzy tego wina.

Ягічэ раней спадар Тадарчук заявіў, што Беласток неабавязкова мусіць уяўляцца як усяпольскі цэнтр спажывання „Сталічнай". Тут жа і шмат паклоннікаў добрага віна. З беластоцкага падарожжа па радзімах самага лепшага еўрапейскага віна скарысталі не толькі беластоцкія журналісты. На дэгустацыю рэйнскага і французскага віна з'явіліся і прадстаўнікі беластоцкай гандлёва-палітычнай знаці. — Да смакавання віна, — павучае спецыяліст па гэтых справах, — найлепш падыходзіць са свежай галавой.

Віно наліваюць вельмі маленькімі *порцыямі*, але кожны раз з іншай бутэлькі. Пасля трох-чатырох спробаў галава можа задымець.

Наша падарожжа пачалося з французскай Шампаніі, дзе ў XVII ст. адзін манах са сваім братам (манаскім або родным) ажно 30 гадоў мучыліся, каб у бутэльцы затрымаць бурбалкі. А імя іхняе — шампанскае. З тае пары толькі французскае бурбалкавае віно мае права так звацца. Прыкладова, савецкае завецца „игристым", а італьянскае — „spumante".

Шампанскае віно *Baron Ferdinand Doux*, паўсухое, дробнаперламутнае, выдатнае на навагоднія вечары. Пасля глытка гэтага напітку ў галаве зорналётны зрух. Цана гэтага цудоўнага напітку 32 злоты. Гіт сезона ў Францыі. *Guldentaler Schlosskapelle*, рэйнскае, паўсухое, рыхтык на Каляды. Яно пасуе, падыходзіць да рыбы і пасля яе. Таксама рэйнскае *Graf Eltz-Kabinet*, салодкае, дэсертнае, рэкамендуем на Каляды. Як адзначыў наш дарадчык — знакамітае „перад" і „пасля", што-колечы гэта не абазначала б.

На нашу думку, сярод рэйнскіх він самае цікавае — *Guldentaler Schlosskapelle Spatlese*. Гэта віно позняга збірання. Яго гісторыя такая. Нейкі манаскі абат забыўся даць загад сялянам для збірання вінаграду. Вінаград той здорава падмёрз і што ж было рабіць. Яго ўсё-ткі сабралі і аддалі сялянам, якія і паставілі віно. Яно аказалася надзвычай класным. З таго часу падмёрзкі вінаграду спецыяльна выходзяць збіраць ноччу з ліхтарамі, кладуць яго на палатку і чакаюць гадзіну-дзве, каб адыйшла першая пара. Французскае віно маркі *бардо* захвальваць няма патрэбы. Яно ж прызнанае ва ўсім свеце. Аднак *Chateau Rigal-Bordeaux* мае прыкмету асаблівай далікатнасці і лагоднасці. Пачаткоўцы, аматары добрага віна, павінны з яго пачынаць навуку.

— Wino, które goście w najwyższych białostockich gabinetach... najlepiej wypić, — захвальвае спадар Тадарчук, бо што тут і казаць, дэгустацыя гэта вельмі лёгкая форма п'янства. Ён меў на ўвазе *Pineau de charentes* — ідэальнае спалучэнне каньяку і віна. З першага мае смак, з другога — лёгкі вальтаж. А і цана дастойная вышыні згаданых кабінетаў, 54,50 зл. На гэтай высокай ноце і закончылася наша падарожжа. Амаль усе прысутныя аматары-дэгустатары хацелі зразу запасціся ў пакаштаваныя віны.

**Ганна Кандрацюк**
**Аляксандр Максімюк**

# Новыя вершы

**Міра Лукша**

* * *

По руінах свету
ходзіць вецер.
Вечар, пачатку
новага дня пара.
Кроў каліны
збіраю ў далоні.
Шэрая птушка
слядок за слядком
ступае па пяску памяці.
Збірае зерне лебяда,
узіраецца ў разору,
узараную метэарытам.
Няпоўны светах
з узарванай поўні
на дрэве родным.

## Помста

Я іду далінаю, ты едзеш пагоркам,
Напалохаў птушак, забрудзіў аблокі,
Загоны раз'ехаў, межы, пазбіваў і зоркі,
Што на небе вісяць, хоць яно высока.
Едзь сваёй дарогай, калі ёсць машына,
Пакуль руль у лапах, а правы ў кішэні,
Бо ты без машыны — зусім не мужчына,
А калі ўсё лясне — Бог усё адменіць:
Я палезу ў горы, а ты — на хмурынку,
Нюхаць дым смуродны і чорны да волі!
Я табе, нячысцік, павею хусцінкай,
А твой „Фіат" счарнее на галюткім полі!

# Фаўст у Беластоку

15 лістапада ў беластоцкім Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі адбылася прэм'ера п'есы паводле паэмы Іагана Вольфганга Гётэ *Фаўст*. Рэжысёр Анджэй Марыя Марчэўскі гётаўскі свет прабаваў перанесці ў сучасную рэчаіснасць. Доктара Фаўста спатыкаем у гэтай пастаноўцы як разлезлага, пажылога мужчыну, які прачытаў усю літаратуру па філасофіі, тэалогіі, патраціў час на даследаванні і не найшоў адказаў на пастаўленыя сабе пытанні. У сапраўднасці нават не надта вядома, чаго Фаўст Марчэўскага шукаў у кніжках. Вядома толькі, што адчувае ён жаль да сябе і ўсяго свету. Нудны і прагорклы чалавек, які паверыў у сябе і сам шукаў сэнсу ўсяго існавання, прымае прапанову д'ябла яшчэ раз прайсці жыццёвы шлях, але гэтым разам беручы з жыцця ўсё, што найбольш прываблівае. Фаўст, якому д'ябал вяртае маладосць і вітальныя сілы, пачынае новае жыццё ад спакушэння богабаязнай і наівіннай Малгажаты (Маргарыты). З гэтай пары эратызм паказваецца ў спектаклі як сімвал зла. Шчырае каханне маладых людзей, якое праходзіць з парушэннем касцельнага рытуалу, можа адбывацца выключна па чартоўскім благаслаўленні. На шляху гэтага каханя стаяць самыя злачынствы, цярпенні, няшчасці, слёзы. Эратызм аказаўся чымсьці ганебным у вачах супольнасці, сярод якой вырастала цнатлівая прыгажуня. Яе брат, падчас спробы забойства няшлюбнага швагра, сам становіцца яго ахвярай. Маці Малгажаты памірае ад смутку, не будучы ў змозе перанесці ганьбу, якую прынясло сям'і нязгоднае з касцельнай навукай каханне дачкі і Фаўста. Малгажата ў адчаі кінула ў ваду сваё нованароджанае дзіця.

У свеце — паводле Анджэя Марчэўскага — няма магчымасці для самабытнага існавання чалавека. Нават найбольш геніяльная адзінка не можа сама сабе вызначыць этычных межаў. У прасторы безупыннага змагання дабра і зла чалавек можа толькі далучыцца да аднаго ці другога боку гэтай вайны. Гідам для доктара Фаўста стаў д'ябал — увасабленне зла. Фаўст мог мець усё, што толькі хацеў, але кожны чартоўскі падарунак прыводзіў новыя няшчасці. П'еса Марчэўскага адлюстроўвае псіхалагічныя тэндэнцыі, пануючыя сярод сучаснага грамадства Польшчы, дзе паміж дабром і злом няма ніякага месца на пасрэдныя формы.

Наадварот чым Фаўст Гётэ, галоўны герой п'есы Марчэўскага не выяўляе вонкаваму свету закавулкаў свае душы, не задумоўваецца над анталагічнымі праблемамі, не ставіць ніякіх экзістэнцыяльных пытанняў. На падмостках беластоцкага тэатра бачым сентыментальнага жуліка, выхаванага ў атмасферы маламестачковага фальшу і крывадушнасці. Разам з Малгажатай маглі б яны быць героямі звычайнага бытавога ці крымінальна-судовага скандалаў, пра якія часта піша лакальная прэса. Гледачам п'есы рэжысёр аднак не ставіць тых універсальных пытанняў, якія паставіў сваім чытачам Іаган Вольфганг Гётэ.

**Яўген Міранові**ч

# У пошуках лепшай долі

**Пра бежанства расказвае 83-гадовы жыхар чыгуначнай Чаромхі Васіль БАРАНАЎ.**

Недзе, ў канцы жніўня 1914 года сям'я наша, як і іншыя жыхары вёскі Альвус (зараз яна ў Рэспубліцы Беларусь — У. С.) накіравалася ў бежанства. Мне тады было каля двух гадоў. Таму аб падзеях гэтых дзён раскажу тое, што з бацькавых апавяданняў засталося ў памяці.

У Альвусе не засталося ніводнай сям'і. Усе грузіліся на фурманкі. На нашу падводу памясціліся нас сямёра: бацькі, дзядуля з бацькавым братам і трое дзецюкоў.

Перад ад'ездам маці спякла белага хлеба. На дарогу абяспечыліся яйкамі, курыным мясам ды іншымі харчовымі прадуктамі. З сабою забралі кароўку. Вядома, дзецюкам у дарозе малако прыгадзіцца.

Ніхто не ведаў, куды едзе, ды ад каго ўцякае! Адны баяліся нашэсця немцаў, а іншыя накіраваліся ў Расею ў пошуках лепшай долі.

Калі сяляне пакідалі вёску, з фурманак нашых утварылася немалая калонка. Пасля да нас далучаліся іншыя людзі. Праз тыдзень было ўжо ў нашым абозе некалькі дзесятак падвод.

Падарожжа працягвалася некалькі тыдняў. Начавалі мы дзе папала. Часам у стадолах прыдарожных вёсак, часам проста пад адкрытым небам, пад фурманкамі, на ўлонні натуры.

Чым далей заглыбляліся ў Расею, тым меншая калонка наша ставала. Кожны ў свой бок накіроўваўся. Так даблыталіся мы на Украіну.

Спыніліся мы непадалёк Харкава, у маёнтку Светагорск. У гэтай мясціне людзям нядрэнна жылося. Усяго мелі ўдосталь. А паколькі былі яны ветлівым і спачувальным народам, нам, бежанцам, нічога не шкадавалі. Прыносілі хлеб, яду. Для большых сем'яў нават яйкі ды курыцу часам падкінулі. У Светагорску гаспадаркі былі немалыя. Некаторыя больш дваццаці гектараў мелі.

Дамы будаваліся тут пераважна з „круглякоў", дах — саламяны. У кожнай хаце абавязкова мусіла быць вялікая „руская хлебная печка". Падлога была пакладзена акуратна з дошак. Акенцы аднак маленькія, з чатырох шыбінак. Праз два першыя гады бацькі нашы памагалі сялянам у сельскай гаспадарцы, пры жніве, уборцы. Неаднойчы прыходзілі жанчыны з вёскі да нашай маці і прасілі: „Параскева, памажы утак ці курыцы «паскубаць»", а пасля за работу і яек, і курыцу давалі.

Пасля некалькіх гадоў бацьку пашанцавала. Атрымаў працу на адлеглай каля сямі-васьмі кіламетраў ад Светагорска чыгуначнай станцыі Ізюм. Яго назначылі начальнікам паліўнага склада. Станцыя Ізюм была немалым чыгуначным вузлом непадалёк Харкава. Будынкі былі большыя, пакрытыя чарапіцай, а нават бляхай. У крамах была каўбаса ды іншыя мясныя вырабы, якіх у нашым пасёлку не хапала. Калі гаворым аб мясных вырабах, трэба адзначыць, што свініны тут зусім не было. Свінагадоўляй людзі не займаліся. Пераважала ялавічына і мяса з качак і курэй.

Не вырошчвалася ў гэтых мясцінах і бульба. Калі на нейкім вяселлі ці хрысцінах давалі вараную бульбу, людзі казалі: „На гэтай бяседзе і картошка была".

На працу ў Ізюм бацьку прыйшлося штодзень даязджаць. У гэтым часе кожны на сваю руку шукаў сабе кватэру. Аднак, зважыўшы на атрыманую пасаду, бацьку пасля нейкага часу прызначылі кватэру ў пуцявой казарме. Было гэта вялікае жылое памяшканне для двух сем'яў з аддзельнымі ўваходамі.

Тут мы і пражылі да апошніх дзён свайго прабывання ў бежанстве, гэта значыцца да 1922 года.

У Светагорску была невялічкая школа. Я вучыўся ў ёй два гады. Мой старэйшы брат закончыў раменаснае вучылішча. Стаў токарам. У час адной з гульняў здарыўся выпадак. Брату ў двух месцах лопнуў пазваночнік. Ён стаў інвалідам. Здарэнне гэтае мела месца якраз перад выездам у свае родныя мясціны ў 1922 годзе.

Да рэвалюцыі людзі жылі ў вялікім дастатку. Жылі весела і згодна. У летнюю пару гаспадаркай займаліся ды і на адпачынак часу хапала. У кожнае свята моладзь збіралася на вечарынкі. Песні спявалі. У зімовую пару таксама збіраліся па хатах ды „семушки" лузгалі. Гарбузоў на Украіне вырошчвалася шмат, з якіх мясцовыя сяляне рабілі даволі добры марынад. У дні ваеннай завірухі жыццё ператварылася ў нейкі кашмар. Бальшавікі палілі пшаніцу складзеную ў стагах. „Прыйдуць белыя, забяруць", — казалі. А пасля самі не мелі чаго есці.

Спыніўся і рух цягнікоў на станцыі Ізюм. Мы надумаліся вяртацца дамоў. Ды справа была складаная. Бальшавікі нікога не хацелі выпускаць за мяжу. Патрэбная была „справка". На станцыі ў Ізюме такія даведкі выдаваў начальнік станцыі. Бацька з ім быў добра знаёмы і незадоўга атрымаў патрэбны дакумент. У ім гаварылася, што „гражданин Польши... возвращается на Родину с семьей". Нам прызначылі таварны вагон, у які мы і пагрузіліся са сваёй маёмасцю. Дачапілі яго да першага цягніка, які накіроўваўся ў Польшчу. Вяртанне наша замаруджвалася безупыннымі „праверкамі" вайскоўцаў. То адчаплялі нас ад лакаматыва, то зноў прычаплялі. Палову месяца блыталіся па „тупіках" пакуль трапілі у Ковель. Пасля ўжо лягчэй было дабірацца дамоў.

У Альвусе засталі мы толькі пажарышча. Вёска была ўшчэнт спалена. Толькі адзін Данылка ўспеў пабудаваць новы дом. Ён раней, бо ў 1918 годзе вярнуўся ў родную вёску з сынамі, якія атрымалі адукацыю ў Расеі. У дружным калектыве і збудавалі новы дом.

А нам доўга прыходзілася блукацца па чужых і сваяках у Кузаве і Вульцы-Тэрахоўскай пакуль знайшлі сваю прыстань у Чаромсе.

*Запісаў*
**Уладзімір Сідарук**

# Кніжка для Беларусі

Выдавецтва „Братчык" з Гайнаўкі ініцыіравала выдаванне рэлігійных кніжак на беларускай мове з прызначэннем для нашай нацыянальнай меншасці, а таксама і для беларусаў у Рэспубліцы Беларусь. У сувязі з гэтым звяртаемся да ўсіх людзей добрай волі з заклікам ахвяроўваць грошы на гэтую мэту. Давайце дапаможам нашым сабратам у веры, дастаўляючы ім праваслаўную літаратуру. Цяпер Беларусь заліваe хваля польскамоўнай каталіцкай літаратуры, якая муціць галовы праваслаўным спакон вякоў беларусам.

Грошы просім пералічваць на рахунак: Wydawnictwo „Bratczyk", 17-200 Hajnówka, ul. Mazurska 14, tel. (0-835) 25-65; PBK SA O/Hajnówka 370422-4659-2700-1-55.

За ўсе ахвяраванні Спаси Господи.

*Рэдактар* **Марк Якімюк**

# Асвячэнне капліцы

24 кастрычніка ў Доме грамадскай апекі ў Харошчы адбылася важная ўрачыстасць асвячэння капліцы. З гэтай нагоды да нас прыехаў архібіскуп Станіслаў Шымэцкі з Беластока. Мы прывіталі яго адмысловай прамовай. Потым адбылася багаслужба і была асвячана капліца. Пенсіянеры прыгожа спявалі рэлігійныя песні.

Пасля багаслужбы пенсіянеры ўручылі архібіскупу самадзейныя вырабы — творы сваіх рук. Беластоцкі мітрапаліт ад'ехаў, а іншыя госці сабраліся ў мармуровай зале, дзе ўсіх чакаў багаты пачастунак — як на вяселлі. Было нават печанае парася.

Прыйшлося мне гутарыць з каталіцкім ксяндзом. Кажу я яму: „Напісана, што ёсць такі грэх, які выклікае смерць. У такім выпадку не трэба маліцца?" Святар сказаў, што не ведае, пра якую смерць ідзе гаворка: цела ці душы. Наш бацюшка, а. Анатоль Болбат тлумачыў гэта дакладней. Але, слава Богу, і з палякамі жывем у згодзе.

**Мар'я Пень**

# У Курашаве свята

*(працяг са стар. 1)*
Яніна Грыгарук, Люба Анішчук і Зінаіда Мартынюк, а Ірэна Заянчкоўская і Надзея Гаўрылюк сёння не спяваюць, бо яны ў жалобе. Акампаніруе жанчынам Сяргей Аўксянцюк. Глядзіш — і дзіву дзівішся: колькі майстэрства ў гэтых самародных артыстаў! Асабліва выразна ў частушках праявіліся сцэнічныя магчымасці Ніны Грыгарук. 2 снежня яна едзе ў Менск на курсы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці пры Інстытуце культуры. Во тады дык ужо яны заспяваюць! А, зрэшты, нават сёння айцец Яўген скантатаваў: „Я потрясён тем, что здесь услышал!"

Па прапанове Міколы Бушко 16 верасня г.г. ў Гайнаўскім доме культуры былі запісаны песні калектыву, а сёння Ірэна Парфенюк уручыла ім у падарунку цэлую пачку іх першых касет.

Няма канца пажаданням, кветкам, падарункам. У гэтым усе роўныя: ці дырэктар, ці пасол, ці старшыня, ці бацюшка, ці сяброўкі з братніх калектываў.

Усім спявачкам уручаюцца адзнакі „Заслужаны дзеяч культуры". Апрача Ніны Грыгарук, бо яна ўжо атрымала такую ўзнагароду раней. Прачула я, быццам ёсць надзея, што неўзабаве будзе нешта „лепшае".

А цяпер прадаўжаюцца выступленні, але „Незабудкі" тут ужо ў ролі гледачоў. „Тыневічанкі" з суседняй вёскі Вялікія Тыневічы паказваюць надта смешную сцэнку з вясковага жыцця: „Дівоснубы". З ёю яны сёлета паспяхова выступілі на аглядзе ў Нарве.

Спяваe малады па стажу, нядаўна „ахрышчаны" калектыў „Збучанкі" са Збуча, што па другі бок Чыжоў.

Выступаюць таксама „Чыжавяне" пад кіраўніцтвам Міхася Аўхімені, што даязджае ў Чыжы аж з Гродна.

А пасля ізноў выступілі „Тыневічанкі" — на гэты раз усім 9-асабовым калектывам і з акампаніятарам Сямёнам Карнілюком. І заспявалі, як са сваёй касеты — цудоўна, зладжана і аўтэнтычна. Бедная Валя Франкоўская, яна мусіла спяваць з намаляванымі для папярэдняй сцэнкі вусамі, дзе іграла ролю бацькі. І што толькі не рабіла — церла верхнюю губу, змазвала яе крэмам, а нават мыла воцатам — неакцёрскі фламастэр трымаўся, як чорт. Але і так усе білі брава.

Ну, і выступаў яшчэ магутны хор мужчын з калектыву пры ГДК. Во дзе дык было свята!

* * *

„Незабудкі" — гэта не толькі кветкі, сказалі мне курашаўскія спявачкі. Яны — „Незабудкі", бо спяваюць, каб не забыцца пра сваё, роднае.

І за гэта мы іх цэнім, а людзі, дзякуючы ім, штораз чуюць нешта пра Курашава.

**Ада Чачуга**
*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*Юбіляркі „Незабудак" віншуюць сяброўкі-„Тыневічанкі".*

Васіль САКОЎСКІ

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Час ішоў, а рай не наступаў, бо аказваецца, злыя ворагі перашкаджалі. А паявілася гэтых ворагаў мноства-мноства, „видимо-невидимо".

І мудрэйшая камуністычная партыя з яшчэ мудрэйшым правадыром сваім узяліся за работу. Паўсюдна пачалі арудаваць апрычнікі, дзень і ноч нястомна шукаючы гэтых каварных ворагаў народа. Пад найбольш пільным наглядам аказалася армія, а ў ёй — камандзірская кадра.

І ці ж маглі яны абмінуць камандзіра, які, праўда, ужо ўласнай крывёй даказаў сваю вернасць, але якога бацька і брат — аж страх падумаць — у капіталістычнай Польшчы жылі, ды яшчэ пад іншым прозвішчам. За адно толькі гэта яго можна было без суда і следства расстраляць. І ў нейкага там Чан-Кай-шы так бы і зрабілі, але не ў Савецкай дзяржаве, дзе асновай усяму — законнасць і справядлівасць, як і паложана было быць у самой перадавой краіне свету.

Прыйшлі ціхутка ноччу, відаць, каб не перашкаджаць чэсным савецкім людзям. Шчыльна акружылі дом. Культурна, рытмічна, але пераканаўча пастукалі ў дзверы. Калі адчынілі іх, увайшлі, ветліва прывіталіся, каго трэба ўзялі пад варту, зрабілі дакладны вобыск і каго трэба, і што трэба ціхутка адправілі ў следчую турму. Увесь час культурненька звяртаючыся да падазронага на „вы". Чаго ж вам яшчэ трэба і дзе вы падобнае ўбачыце?

А ўжо ў турме, як гэта ў турме, адносіны паміж следчымі і падсуднымі не заўсёды ўдавалася ўтрымаць у рамках высокай культурнасці. І па віне ў асноўным саміх жа падсудных.

Калі пазней я гаварыў з дзядзькам Васілём аб яго арышце і пабыўцы ў турме, здзівіла мяне, што ён не мае да нікога жалю за гэты, як мне здавалася, вельмі прыкры інцыдэнт.

„Понимаешь, мы ведь жили тогда во вражеском окружении, и надо было быть бдительным. Иногда допускались и ошибки, конечно, но где же их, этих ошибок, не бывает?" — сказаў. Бачыце, як разумна і проста? І правільна.

А што ў турме часам крыху следчыя і „осерчали" ды галасней крыкнулі, мацокнуліся ці нават салідна бакі намялі ды некалькі рэбраў пры такой нагодзе зламалі, то і што ж тут такога? Чырвоны камандзір — не паненка, следчая турма — не санаторый, а следчыя — у сябе дома. Трэба ж быць чалавекам і следчых зразумець. Праца следчых вельмі ж адказная, нялёгкая, кругласутачная, а кліентура ў іх розная. Часта спачатку гордая, нахабная, якая ніяк не хацела ў сабе ўбачыць той віны, якую вопытныя следчыя хацелі ў іх бачыць. І зусім не лічыліся з тым, што пунктам гонару кожнага савецкага следчага было такое вядзенне кожнай справы, каб кожны іх „падапечны" прызнаваўся да ўсяго, чаго толькі яны хочуць. Адным словам, працаваць на сто працэнтаў. І трэба сказаць, многія падсудныя, вельмі многія, па адпаведнай апрацоўцы, прызнаваліся да ўсяго, чаго ад іх толькі хацелі. Але былі і такія, на жаль, якія псавалі следчым статыстыку і да нічога не прызнаваліся.

Такім упартым быў і Васіль Антанюк. На ўсе хітрыя і прадуманыя пытанні следчых адказваў зусім не так, як яны гэтага хацелі. Цэлыя дні і ночы з ім праводзілі і пераконвалі, прасілі, гразілі, нават па-бацькоўску і стукнулі часамі, каб прызнаўся, бо гэта — як казалі — і для яго, і для справы лепей будзе, а ён усё не і не. Ці ж такая пастава падсуднага магла не раззлаваць следчых?!

А яны ж не для сябе, а для камуністычнай партыі, бацькі Сталіна і народнага працвітання так стараліся. І так нямнога ад яго хацелі — толькі прызнацца, што ён вораг савецкай дзяржавы і шпіён зарубежнай разведкі ці разведак. І не задарма ж — за „чистосердечное" признанне да віны абяцалі, што справядлівае савецкае правасуддзе возьме гэта пад увагу і будзе „снисходительным" для яго. А ён далей сваё не і не. Так і не прызнаўся да ніякіх злачынстваў...

І сталася дзіўная рэч, пасля васьмімесячных кругласутачных цікавых такіх „канверсацый" Васіля Антанюка апраўдалі і моцна памятага выпусцілі на волю, хаця з такімі падазрэннямі мала хто адтуль выходзіў.

Прычынай свайго выратавання ад турмы, ссылкі і смерці сам Васіль Антанюк лічыў тое, што быў невінаваты і што не вымусілі на ім признання да віны, якой за ім не было. А мне здаецца, што гэтага было тады замала. Відаць, хтосьці з высокапастаўленых вайскоўцаў ведаў яго асабіста і ўзяў у абарону. Не да следчых належала даказаць віну падсуднаму, а да падсуднага — даказаць недаверлівым ім, што ты „ни в слове, ни в деле, ни в помышлении" не вінаваты, а гэта намнога больш складаная справа.

Як цяпер ужо вядома, усіх „чыстасардэчна" прызнаўшыхся да ўсіх „сваіх" злачынстваў, чыстасардэчна і судзіла справядлівае савецкае правасуддзе — „на всю катушку", як рускія кажуць.

Часцей за ўсё, не менш чыстасардэчна судзілі і тых, якім не даказалі ніякай віны і яны самі да яе не прызналіся. Савецкае правасуддзе мела для іх у запасе такія юрыдычныя кветачкі, як: „неисправимый", „злостный", „матёрый" вораг. І, канешне, адпаведныя параграфы. Калі так упарта не прызнаешся да іх — значыць маеш што скрываць і ўмееш скрыць. Лагічна, вельмі лагічна...

Вярнуўшыся з турмы, атрымаў водпуск на адпачынак і лячэнне маральных і фізічных ран, а потым зноў у армію. Усе ранейшыя званні, узнагароды і прывілеі, належныя камандзіру яго рангу, былі вернуты яму. Так памаленьку вярталася ранейшае палажэнне — статус-кво. Не надоўга аднак.

***(працяг будзе)***

# Наша пошта

**Паважаны галоўны рэдактар!**

Звяртаецца да Вас настаўнік-беларус, які легальна працуе ў Польшчы, дзе ўжо другі год выкладае замежную мову ў ZSO Nr 3 у Пулавах.

Справа ў тым, што я пачаў выпісваць праз „Рух" Вашу газету ад кастрычніка бягучага года. Чакаў прыходу свайго першага нумара, як свята. Але засмучае той факт, што ў сваім кіёску „Руху" я не атрымаў два нумары (н-р 43 і 44) з кастрычніка і лістапада. Пытаў у свайго кіяскёра пра газету і чуў у адказ: „Няма", „Не было", „Не мая віна" і г.д. А ў апошнюю сераду (я заўсёды пытаю ў гэты дзень пра „Ніву") атрымоўваю н-р 45 ад 10.11.1996 г. і бачу, што перапынку ў Вас не было.

Таму і рашыў напісаць Вам адразу ў рэдакцыю — можа, дапаможаце атрымаць тое, што мне належыцца за свае грошы, што я аддаў „Руху". Гэтая кантора ў мяне даверу не мае, таму што я ўжо меў негатыўны вопыт хаджэння па калідорах гэтай установы з нагоды неатрымання яшчэ аднаго, польскага на гэты раз, выдання ў верасні гэтага года.

Дарэчы, у першы раз я пазнаёміўся з Вашым паважаным выданнем у Менску, на пачатку 70-х гадоў, калі я яшчэ быў студэнтам інстытута замежных моў. Так што выходзіць, што да Вас звяртаецца з просьбай чытач з болей чым 20-гадовым стажам.

Не трэба тлумачыць, што „Ніва" для мяне як добры суразмоўнік па роднай мове, з якой я збіраюся дружыць і ў будучыні.

Thank you very much in advance.

З павагай

**Аляксандр Караткевіч**

**Ад рэдактара:** Паважаны спадар Караткевіч, не Вы першы і напэўна не апошні маеце праблемы з „Рухам". Бракуючыя экземпляры высылаем Вам з запасаў рэдакцыі і жадаем бестурботна атрымліваць наш тыднёвік.

# Прывітанне з Аўстраліі

**Дарагія сябры і ўсе Суродзічы!!**

Ад імя Выканаўчага Камітэту Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, вітаем Вас з надыходзячымі сьвятамі 76-х Угодкаў Вялікага змагарнага чыну супраць акупанта, што мела месца 27 лістапада 1920 году.

Барацьба Беларускага Народу трывае ўжо ад шмат стагодзьдзяў. Сістэматычная і няспынная барацьба Беларускага Народу супраць акупантаў фактычна распачынаецца ад моманту ўтраты Вялікім Княствам Літоўска-Беларускім свае дзяржаўнай незалежнасьці, г.зн. ад канца XVI стагодзьдзя.

Першыя збройныя выступленьні мелі месца ў раёнах Брагіна, Пінска, Мсьціслаўя, Чачэрска ды Бабруйска супраць рэлігійнага і эканамічнага ўціску з боку польскае шляхты ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя.

Гэтая барацьба Беларускага Народу — сялянства — трывае доўга ды набірае большай сілы ў першай палове XVIII стагодзьдзя ў Крычаўскім старостве пад камандай селяніна Васіля Вашчылы. У працягу чатырох год польскае рэгулярнае войска не можа даць сабе рады з крычаўскімі паўстанцамі.

Пазьнейшыя сялянскія паўстаньні і бунты маюць месца ў XIX стагодзьдзі супраць расейскай улады, якая акупавала ў гэтым часе ўсю этнаграфічную тэрыторыю Беларусі.

Як бачым Слуцкае Паўстаньне 1920 году было толькі адным із этапаў шматгадовае барацьбы Беларускага Народу за сваю нацыянальную і асабістую свабоду, але адначасна яно і выдзяляецца з паміж іншых падобных паўстаньняў сваім чыста палітычным характарам.

Случчакі разумелі, што толькі сувэрэнная і ні ад каго незалежная дзяржава можа забясьпечыць нацыі ўсебаковае разьвіцьцё і поўную свабоду.

Случчакі ведалі які абавязак перад Народам і Бацькаўшчынай. Яны памiралі, каб жыла Беларусь. Выкарыстоўваючы ваенныя ўмовы пад час II Сусьветнай Вайны, на ўсходзе, у франтавой зоне Беларусі паўстала 100-тысячнае Беларускае Войска, у заходняй частцы Беларусі — Беларуская Краёвая Абарона.

Жаўнеры гэтых Беларускіх Збройных Сілаў баранілі свой Народ ад тэрору ўсіх акупантаў Беларусі і змагаліся за адноўленьне Вольнай і Незалежнай Беларускай Дзяржавы.

Гэтае змаганьне трывае далей, мы-ж на эміграцыі, нягледзячы на вострыя атакі і пагрозы ворагаў незалежнасьці нашага Народу, з гонарам нясем Вызвольны Сьцяг нашага Народу разам з патрыётамі на Бацькаўшчыне да канчатковага пераможнага моманту.

Схілім нашы галовы і аддамо пашану нашым слаўным Случчакам і ўсім беларускім змагарам-патрыётам, якія аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Беларусь.

Жыве Беларусь!!

**За Выканаўчы Камітэт Фэдэрацыі Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі**

**Паўла Гуз**, Сакратар

# Дэгенерат

Калі я яшчэ быў школьнікам, помню, часта гарэла вёска Елянка, што ў Дубіцкай гміне. Наша хата знаходзілася пасярэдзіне вёскі і недалёка візеў сігнальны звон. У выпадку пажару ў той звон біў той жыхар нашай вёскі, які, паводле чаргі, вартаваў яе ад пажару. Людзі тады прачыналіся і беглі надвор; я таксама выбягаў за бацькам. І кожны раз у паўднёвым напрамку віднела зарыва; людзі паўтаралі: Елянка ізноў гарыць. Дубіцкая страж са сваёй падводай спяшыла на дапамогу.

Пераважна загараліся клуні, радчэй хлявы. Паколькі ў той час усе будынкі былі пад саламянаю страхою, моцны вецер лёгка перакідаў агонь на суседнія збудаванні. Вядома было, што ёсць падпальшчык, невядома было толькі, хто ён. Жыхары вёскі штоноч пільнавалі свае панадворкі, маліліся, ахвяроўвалі на цэрквы. Прыпільнаваць злачынцу ніяк не ўдавалася, а вёска надалей гарэла. Найбольш, здаецца, было пажараў восенню 1952 года; зімою таксама гарэла, але менш. Вясною 1953 г. крыху прыціхла, але вось на першы дзень Вялікадня, сярод белага дня, ізноў успыхнуў пажар! Амаль усе жыхары Елянкі былі тады ў дубіцкай царкве, бо прыехаў тады ў наш храм мітрапаліт Макарый. Калі там даведаліся, што Елянка зноў гарыць, дык вернікі, а з імі і сам бацюшка Іаан Блізнюк, сказалі: на гэты раз Бог пакарае злачынца, які наважыўся ўзняць пажар у такое вялікае свята. Напэўна даведаемся, хто падпальшчык, гаварылі людзі, і незадоўга даведаліся. Вось як дайшло да гэтага.

Падпальшчык думаў, што вёска зусім пустая, і сярод дня бег па адным панадворку падпаліць клуню. Не заўважыў ён, што на тым жа панадворку сядзеў на лавачцы стары дзядуля, які лёгка яго пазнаў. Калі людзі вярнуліся, ён і расказаў, хто бег падпальваць клуню. Людзі кінуліся яго шукаць, і, каб тады знайшлі, укінулі б яго ў агонь. Ён, аднак, ужо прадчуваў, што ўсё выкрылася, уцёк і хаваўся. Пасля і міліцыйным даследаваннем было пацверджана, што падпальшчыкам быў малады хлопец з Елянкі. Раней ён, калі вёска гарэла ноччу, першым аддана кідаўся гасіць пажар.

Скора міліцыя злавіла яго, быў суд і прысудзілі яго на... перадавую на карэйскі фронт! А адтуль мала хто вяртаўся, бо карэйская вайна 1950—53 гг. была вельмі крывавая. Аднак пакуль яго даставілі на той фронт, вайна закончылася і ён вярнуўся, аднак не ў родную вёску, толькі недзе на Заходнія землі.

**Мікалай Панфілюк**

# Позірк у мінулае

**1 снежня**

1822 г. — Дом Педра каранаваўся першым каралём Бразіліі.

1870 г. — кангрэс у Любляне аб'явіў культурнае і палітычнае адзінства паўднёвых славян.

1904 г. — выбух паўстання герэра і гатэнтотаў супраць нямецкага панавання ў Паўднёва-Заходняй Афрыцы.

1913 г. — у Пітсбургу адкрыта першую бензазаправачную станцыю.

1920 г. — заснаванне Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў.

1953 г. — памёр Уладзімір Аркадзьеў, савецкі фізік, адкрывальнік ферамагнітнага рэзананса.

**2 снежня**

1083 г. — нар. Анна Комніна, візантыйская храністка, дачка імператара Аляксея I.

1804 г. — Напалеон Банапарт каранаваўся імператарам Францыі.

1805 г. — у бітве пад Аўстэрліц напалеонаўскія войскі перамаглі аўстрыйцаў і расейцаў.

1814 г. — памёр маркіз дэ Сад, французскі пісьменнік.

1823 г. — прэзідэнт ЗША Джэймс Манро аб'явіў дактрыну палітычнага аддзялення Новага свету ад Еўропы.

1901 г. — фірма *Gilette* аб'явіла аб канструкцыі першага апарата для брыцця з мяняемым вастрыём.

1908 г. — у Пекіне інтранізаваны 3-гадовы Пу-і, апошні імператар Кітая.

1942 г. — у Чыкага італьянскі фізік Энрыка Фермі пусціў у ход першы ядзерны рэактар.

**3 снежня**

1857 г. — у Бердычаве нарадзіўся Джозэф Конрад, англійскі пісьменнік.

1923 г. — нар. Марыя Калас, грэчаска-італьянская спявачка.

1949 г. — памёр Элін Пелін, балгарскі пісьменнік.

1967 г. — першая перасадка чалавечага сэрца, выкананая Хрысціянам Барнардам у Капштадзе.

**4 снежня**

771 г. — Карл Вялікі стаў уладаром дзяржавы франкаў.

1821 г. — нар. Мікалай Някрасаў, расейскі паэт.

1866 г. — нар. Васілій Кандзінскі, расейскі мастак.

1911 г. — аб'яўлена незалежнасць Манголіі.

**5 снежня**

1867 г. — нар. Юзаф Пілсудскі, польскі палітык.

1917 г. — пачатак Усебеларускага з'езду ў Мінску.

1926 г. — з'езд Грамады Бельскага павета ў Старым Беразове.

1933 г. — у ЗША, пасля 14 гадоў, адменена „сухі закон", які не даў спадзяванага абмежавання спажыцця алкаголю, затое прычыніўся да росту арганізаванай злачыннасці.

**6 снежня**

1240 г. — хан Батый здабыў Кіеў.

1917 г. — Фінляндыя аб'явіла незалежнасць ад Расеі.

1921 г. — Ірландыя атрымала статус даміньёна Брытанскай імперыі.

**7 снежня**

1941 г. — атакай японскай авіяцыі на амерыканскі флот пачалася вайна на Ціхім акіяне.

1965 г. — Ватыкан і Канстанцінопальскі патрыярхат адмянілі ўзаемныя анафемы, якія аб'явілі ад схізмы ў 1054 г. **(Ш)**

# Парнасік

*Паважаная рэдакцыя!*

*Хачу і я юбілярам, Сакрату Яновічу і іншым, пажадаць добрага здароўя і выдатных дасягненняў у творчай працы. Але паэтам, які найбольш спадабаўся жыхаркам Дому грамадскай апекі ў Харошчы, з'яўляецца Халімон Гаротнікаў-Бабнікаў („Ніва" № 44). Да гэтай пары я не бачыла зацікаўлення „Нівай", але як чытала верш „Лёс халасцяка" то і польскія дзяўчаты павеселелі і гаварылі: „чытай яшчэ". Я зноў напісала пару слоў, такіх смешных вершыкаў, якія вам пасылаю.*

* * *

Мы ўжо крыху навучыліся,
Ганарымся — мы гара!
Але сапраўды ў Госпада Бога
Мы — малая дзетвара.
Думаем купіць прадметы
І пра знешні выгляд дбаць.
Бога мы не ашукаем,
Што ў сярэдзіне — будзе знаць,
І ў самых прыгожых строях
Можа страшна пакараць

* * *

Дзеўка, дбаеш пра зямное,
Хочаш рэчамі хваліцца.
Зараз хлопцы прыйдуць зняць,
Не дадуць вады напіцца.
Побач манашка Стася
Скромна жыве ў цноце.
Не адну модніцу пераможа
Ў медычнай рабоце.

* * *

Ой, шкада было мне хлопца,
Бедны на марозе.
А цяпер я ў яго
Сяджу на парозе.
Рамы вокнаў паламаў
Потым уставіў новы.
— Дом мой! — кажа.
Апякун з яго „ўзаровы".

**Мар'я Пень**

## Жыццё

Каб жыць,
Трэба вандроўку адбыць:
Ад пялёнкі
Да адпаведнай старонкі.
Да яснасці
І радасці.
Рай нябесны —
Цудоўны, вечны.
Хто з Богам —
Не страшна смерць за парогам.
А цемра чакае
І тых праглынае,
Хто з д'яблам скумаваўся
І на вайну з Богам парваўся.
І стараўся „мужна", багата;
Пекла — яго хата.
Дом вечны і цёмны,
Чуваць там енкі, праклёны.
І так жыццё ідзе,
Як чаўно па вадзе:
То ўніз апускаецца,
То ўверх падымаецца.
Калі мы маладыя,
Дык амаль радавыя —
Гатовы змагацца ў бoі;
Бясстрашныя з нас героі.
Здаровыя і сільныя,
Памятныя і пільныя —
Цэлы час вучымся
І нeяк не мучымся.
Пасля скора сівеем,
А хутчэй лысеем.
Маршчыны на твары паўстаюць,
Прыметы старасці даюць.
Чалавек ідзе па шырокай дарозе,
Што ў цэлым свеце ў модзе.
Бо тут можна ўсё рабіць;
Ніхто не забароніць:
Лаяць, праклінаць,
Д'яблу паклоны даваць,
Войны праводзіць
І людзей да галечы даводзіць.
Хто Бога пазнаў — той шчаслівы,
Справядлівы і не баязлівы,
Д'яблу косці паламаў
І Бога жывога пазнаў.
Такі жыццём даражыць,
Смелы вандроўку адбыць,
З целам расстацца
І з Хрыстом прывітацца.

**Мікалай Панфілюк**

## Шум

Ой, браточкі мае, мілы!
Аб абортах шум зрабілі
І ў парламенце, і ў хаце,
Аж ксяндзы сталі крычаці.
Чаму ж яны напамінаюць,
Калі жонак сваіх не маюць.
Да чужых ім трэба хадзіць,
Каб там практыку здабыць.
Дайце ж жанчынам свабоду,
Каб з мужам дайшла да згоды.
Самім жа трэба вырашаць,
Колькі дзетак гадаваць.
Вы сябе не асмяшайце,
Пра аборты забывайце.
Пакланіцца трэба Богу,
Каб навёў вас на дарогу.
І мець тое на прыкмеце,
Каб лепей зажыць на свеце,
Між сабою не спрачацца,
Зямным жыццём радавацца.

**Мікалай Лук'янюк**

## Смерць

Яна прыходзіць, як
нечаканы, злосны госць.
Усё вымазвае з жыцця.
Маленькім дзеткам
бацькоў адбірае, а
нярэдка і саміх бярэ.
Усё што маем тут
астанецца а ў труну
з намі пойдзе адзенне, у
якое жывыя нас апрануць.
Што нас чакае пасля смерці?
Ніхто дакладна не ведае.
Трэба больш рабіць людзям
дабра і старацца не быць
злосным, недаступным чалавекам.

**Аўрора**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Сніўся мне жудасны сон. Быццам выехалі мы з маёй швагеркай у падарожжа. Едзем па цяжкой дарозе — праз горы, даліны, непраезныя дарогі. Мясцовасць напамінае мне Сувальшчыну.

І вось мы затрымаліся каля нейкіх скал, ці паледніковых валуноў. Быццам шукаем сляды марской жывёлы. І раптам бачым у адной скале... ножкі дзіцяці. Падыходзім бліжэй і бачым, што гэта цэлае выкінутае немаўлятка. Дзіця гэта шэрае, быццам яно ад холаду такое, а мо гэта проста нейкі выкапень... Усё гэта быццам звязана з археалогіяй.

Але хто выкінуў гэта голенькае дзіця? Чаму? І раптам мы заўважаем, што яно ажывае і нават гаворыць так добра, як чатырохгадовае дзіця. Гэта хлопчык. Мы яго ахуталі ў нейкую вопратку і вырашылі завезці ў бальніцу.

І зноў перад намі былі перашкоды. Хаця машына была пад рукой, навокал было бездарожжа.

Бадай мяне чакае нешта кепскае, праўда, Астроне? **Альжбета**

Альжбета! Сумна мне паведамляць табе гэта, але ў тваім жыцці паявяцца нейкія цяжкасці. А нават паграажае табе небяспека. Пра цяжкасці, бязвыхаднае становішча сведчаць скалы, камені, а небяспеку прадвяшчае тое ажыўшае дзіцятка, шэрае і халоднае.

І нават, калі вы везлі дзіця ў бальніцу, а бальніца ж абяцала б спакой у тваім жыцці, то ізноў былі перашкоды і бездарожжа. Значыць, нялёгкая будзе твая дарога да дасягнення мэты.

**Астрон**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. дваранскі тытул, 4. вандроўніцтва, 6. чарцёж зямной паверхні, 7. васьміэлектродная лямпа, 9. водная жывёла з моцнымі клюшнямі, 11. жыхары Заграба, 12. штат у ЗША, 13. тэнісная партыя, 15. спорт на корце, 17. мястэчка на поўначы Беларусі, 18. аўтамабільны склад, 19. закаўказская рака.

**Вертыкальна:** 1. натура, існасць, паўсталая без удзелу чалавека, 2. пасудзіна цыліндрычнай формы, 3. старонка „Нівы" з гумарам, 4. від ніўскай галаваломкі. 5. завод, які вырабляе аўтамабілі, 6. найменшая колькасць энергіі, 8. еўрапейская дзяржава, 9. расце ў Кітаі на затопленым полі, 10. выконвае смяротны прыгавор, 14. архірэй, 16. прыстасаванне для лоўлі рыбы, 17. горы ў Афрыцы. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 41 н-ра:**

**Гарызантальна:** цвік, выбар, управа, ідал, гудок, Анкара, Веласкес, тавар, абарыген, куламеса, Лайка, Скамарох, прапан, гвалт, Уліс, таўкач, страх, Адам.

**Вертыкальна:** цыкута, карова, водгалас, кулак, Аракс, хворы, кераміка, некралог, такт, воля, Агей, юнга, бараніна, ахвота, калгас, аркан, спёка, ануча.


**Ніва**

**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Ніўка




*Малюнак В. КЛЮЧНІКА*

## Пародыі

### Песенны апетыт

*Я калі ем слухаю*
*спяваюць птушкі*
*я вушы надстаўляю*
*добра іх чую*
*лепш ем...*

***Лукаш Сцепанюк***

Зімою не ем,
Бо птушак не чую.
А так разоў сем
Жывот свой харчую.
Бывае і ноччу
Пад музыку жаб,
Расплюшчацца вочы
І смачнае — цап.
Хай птушкі спяваюць
Вясною і летам,
І ў страўнік спаўзаюць
Бісквіт і катлеты...
Дразды з салаўямі,
І жаўранак ў полі
Няхай спяваюць —
Я ем уволю.
А вушы — лакатар,
Каб спеў пачуць...
Я добры аматар
І выпіць чуць-чуць.

**Сяргей Чыгрын**

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка! Хачу табе сёння напісаць пра каханне ў поўдзень. Гавару табе — найлепшая пара, калі, вядома, хтосьці мае час і жонку ці кабету пад рукою. Зразумей, я чалавек бывалы, а калі адпачываў на моры, дык усяго нагледзеўся і сам скаштаваў усяго ды пераканаўся, што ў жыцці найлепшае. Хадзіў я і на ўсялякія даклады спецыялістаў, людзей вучоных. І ведаю цяпер, калі кахацца!

А ці ведаеш ты, што больш пяцідзесяці працэнтаў пар выбірае час на каханне паміж 21-й гадзінай і поўначчу?! Так людзям найвыгадней, хаця наш арганізм якраз тады патрабуе больш пяшчот, мілых слоў і прытулянняў. Зносіны між мужчынам і жанчынай тады — па сабе гэта ведаю — намнога менш інтэнсіўныя, чым у поўдзень.

Трэба ўсё рабіць у згодзе з нашым біялагічным часам. Як вядома, адзін любіць чытаць ды працаваць дапазна, а няхай толькі хтосьці разбудзіць яго да дзесятай раніцы! Падлюга, скажа ён табе. А вось я, напрыклад, выскакваю з ложка перад світаннем, быццам жаўранак, поўны ахвоты да жыцця і кахання, а вечарам дык засынаю перад тэлевізарам.

Жонка з мяне смяецца, але што ты зробіш, калі нашы біярытмы зусім іншыя ва ўсім — у каханні, рэлігіі, палітыцы...

А я вам кажу, даражэнькія, паверце мне, што а 9-10-ай гадзінах арганізм мае найбольш магчымасцей. І сэрца. і мозг таксама тады працуюць на большых абаротах. Секс да 12-ай гадзіны можа нам даць нязвыкла моцныя эмоцыі, пакідае незабыўнае ўражанне.

А добра кахацца і каля шостай раніцы. Дык жа бабы тады або спяць моцным сном, або выпраўляюць дзяцей у школу. А ва ўсіх мужыкоў — поўная эрэкцыя! Калі б пакахаліся адразу — была б ахвота жыць і працаваць. Не трэба стыдацца, што валасы раскудлачаныя і з рота непрыемна пахне — секс усё выраўнае! І будзеце мець добры дзень.

Пакахаемся — і можна было б узяцца за працу ці актыўны адпачынак. Пасля абеду трэба адпачыць, каб каля 17-18-ай гадз. ізноў мець ахвоту на каханне. Гэтая пара карысная для тых жанчын, якія любяць доўгія забавы — як мая жонка — і не любяць спяшацца. Папалудняваму сексу пікантэрыі дадае прыгожая бялізна. Мая жонка дык як апранецца прыгожа, то проста не адарвеш мяне — такая ахвота бярэ! А калі яшчэ пахнуць кветкі ці хаця б пасцель у дробны ўзорчык, пагашана святло, ці засунутая штора... Эх жыццё, жыццё, якое ж ты салодкае!

**ЖАВАРАНАК**

Даражэнькі Жаваранак! Твае парады датычацца, бадай, рэнтыстаў. Добра такому: раненька, а шостай, пачынае, да дванаццатай — штораз. Пасля крышачку папрацуе, або адпачне актыўна — і зноў адпачывае, каб з новымі сіламі прыступіць „да дзела".

А людзі ўскакваюць з ложка а шостай і, не паспеўшы высікацца, бягуць наставіць чайнік, каб дзеці хоць глытком гарбаты праглынулі перад школай, бо часта бутэрброды ядуць сухія, гарбата не паспее астынуць.

А тады — прыгорне чалавек каля сябе — ды бягом на працу. Часамі баба і не памалюецца, і не паснедае, бо трэба ж бегчы. Добра вам! Адно бяда біярытмы — твае і жонкі — розныя! Ай, які ты сіротка. Гультай ты, кажу табе! Добры мужчына і ўначы з ложка сарвецца ды зубы пабяжыць чысціць, а для цябе, відаць, не існуе ні паста, ні грэбень. Думаеш пра „секс", а секс гэта не толькі тая апошняя фаза, з якой ты яго асацыіруеш, а і ўсё тое, што было перад гэтым: пяшчоты, прытулянне, абдыманне і пацалункі. Але перш за ўсё мусіш быць сам чысты і араматны. Не толькі табе прыемна аглядаць прыгожае і пахучае.

А такога чучала гарохавага, як ты, ніводная баба не захоча, хіба што твая дурная жонка. Мыйся, чашыся і чысць зубы! І... не забудзься скінуць з сябе кальсоны, калі бярэшся за бабу, бо мо і на гэта тваё гультайства не дазваляе.

**СЭРЦАЙКА**

**У кіпцюрах цацерука**

## Мілка

Мілка ўпершыню пабачыла свет у калгасе „Павабны мадэль жыцця сучасных камуністаў".

Назва, скажаце, даўгаватая і далёка не кожнай галаве дадзена засвоіць яе беспамылкова. Праўда, у начальніцкія мазгаўні ўлівалася яна лёгка і бесклапотна, калі тым часам у мужыцкія прабіцца ніяк не магла. Магчыма, што хаця мазгі бюракратычныя, як і ўсе другія, бяруць свой пачатак ад малпы, аднак потым суджана ім было прайсці даўжэйшую, ды больш складаную эвалюцыю.

Чалавек, гэта ўсё-ткі інтэлігентнае стварэнне і ўмее перамагчы ўсякія цяжкасці. Бюракраты, як прыстоіць носьбітам ды сейбітам усеакасмічнага інтэлекту, гаварылі і пісалі „Павабны мадэль жыцця сучасных камуністаў", а мужыкі, беручы прыклад з багатага веера ўсякіх „гаспрамвыканкамаў" выказваліся таксама правільна, хаця крыху карацей: „Памажысукам".

Адно Мілка да прыгаданай праблемы ставілася абыякава, ды нічога не гаварыла. І калі ўжо Мілцы быць галоўнай гераіняй нашай аповесці, пара пакінуць анамастыку і шчыра заняцца яе асобай.

Ведаем, дзе наша Мілка нарадзілася і гэта ўжо нейкі пачатак. Ведаем таксама, што кожнаму жывому стварэнню на яго жыццёвы шлях прадбачана добрае і кепскае, ды гэтага другога чамусьці заўсёды больш.

Мілцы на сам пачатак, можна сказаць, пашанцавала. Пашанцавала проста таму, што нарадзілася яна дзяўчынкай. Хлопчыкаў, калі толькі крыху падрасталі, грузілі, бы нейкую безразумную масу, у кузавы і везлі. Куды, гэтага апрача начальнікаў ніхто не ведае. Праўда, аставаўся часам адзін з пяці дзесяткаў і той, пасталеўшы, жыў прыпяваючы. Былі гэта аднак пасобныя выпадкі.

Дзяўчынкі — гэта зусім другая гісторыя. Дзяўчынак не чапалі. Цяпер вось бачыце, чаму Мілцы пашанцавала. А потым яе, зусім маленькую, раздзялілі з мамай. У разумных, карых Мілчыных вачах першы раз паявілася сляза...

Прыйшла вясна, свет зазелянеў. Пра разлуку з мамай Мілка памаленьку забыла. Расла.

І ніхто не прыкмеціў, калі з худога, даўганогага падлетка ператварылася ў стройную, можна сказаць — чыстакроўную даму. Нават галоўны бухгалтар, а адначасова і галоўны знаўца жаночай фігуральнай структуры, не мог стрымацца, каб час ад часу не накіравацца ў тыя раёны калгаса, дзе Мілка пачала якраз працу як спецыяліст па перапрацоўцы дзікай травы на паўнацэннае, неабходнае грамадству малако.

Першы раз Мілчына сцежка скрыжавалася з дарожкай Усенароднага недзе пад восень. Ён, дарэчы, не быў яшчэ Усенародным, яе таксама, пакуль што, не лічылі рэкардсменкай. Аднак шасцярні машыны лёсу круціліся ўжо жвава, літара за літарай спаўняючы і тое запісанае ў зорах, і тое, што надрукаванае ў газетах „Амаль праўда" і „Палавіна праўды". І калі Ён, выступаючы па незалежным тэлебачанні, растлумачыў, што ўсе другія кандыдаты — гэта звычайныя зладзеі, крывадушнікі, дэгенераты нават, стала вядома, хто ў выніку дэмакратычных выбараў акажацца ў пераможцах. Другія кандыдаты па тэлебачанні не выступалі. Менавіта таму, што яны дэгенераты, крывадушнікі і зладзеі.

Запісанае ў зорах, а таксама ў газетах „Амаль праўда" і „Палавіна праўды" споўнілася. Гэтую зіму Ён перазімаваў у сталіцы. Пра Мілку, можна сказаць, і забыў.

І толькі потым, акружаны ворагамі, псеўдапатрыётамі і брахунамі, успомніў карыя Мілчыны вочы, яе цёплае дыханне і пакорлівую маўклівасць.

— Вось сюды б яе, — падумаў. — Замест усіх гэтых скептыкаў.

Раз задуманае, калі чалавек упарты і няўступчывы, пускае парасткі няхай сабе і доўга, калісьці аднак зацвіце захапляючай вочы кветкай.

Першая заметка пра Мілку пабачыла свет у газеце „Палавіна праўды", а вылў яе за свайго пяра ў хвіліне творчага аргазму Вікенцій Лізуноў (у выданні „Ху іс ху" рэкамендуе сябе як — журналіст).

— «Мілка, — чытаем у „Палавіне праўды", — галоўны ў Дзяржаве спецыяліст па перапрацоўцы канюшыны на паўнацэннае малако. Закончыла батанічны факультэт Дзяржаўнага універсітэта. Аўтар кніжкі „Уплыў хларафілу на развіццё мікраарганізмаў у бялку жывёльнага паходжання". Узнагароджана медалямі». Лізуноў Вікенцій ніколі Мілку на вочы не бачыў. Чуў нешта пра яе багатую індывідуальнасць ад Усенароднага, нешта і сам прыдумаў, а зэканомленыя на паездцы ў калгас „Памажысукам" грошы прамантачыў у карчме „Пахмяліся і забудзь".

Газета „Амаль праўда" менш зацікавілася навуковай дзейнасцю Мілкі як кандыдата ў Аднаасабовы Вярхоўны Савет, затое цэлы свой творчы патэнцыял накіравала на экспанаванне тых рысаў характару, якія становяцца прычынай таго, што гуманізм, гуманнасць і гонар назаўсёды з'яўляюцца незаменнымі суразмоўцамі чалавека ў ягонай штодзённай гутарцы з уласным сумленнем.

Аўтар артыкула Сымон Паклонніказ у калгасе „Памажысукам" ніколі не быў. І, праўду сказаўшы, гэтае гультайства выйшла яму на здароўе.

Рэдактар апазіцыйнай газеты, які не ленаваўся і ў далёкую правінцыю з'ездзіў, адначасова і з глузду з'ехаў. Сёння ў псіхушцы мазольна рэканструюе сканфіскаваны цэнзурай тэкст:

«Дарагія сябры! У калгасе „Памажысукам" ніякай Мілкі няма. Праўда, ёсць Мілка-карова, чатырохгодка, стракатая. Штодзённа ўзбагачае дзяржаву на дваццаць тры літры малака. Працэнт тлушчу — 14,3».

Тут рукапіс канчаецца. У рэдактара Падрабязнага памяць кульгае, можна сказаць, на абедзве нагі.

Не толькі памяць, бо хто бачыў малако, у якім тлушчу ажно 14,3%.

Забытае кола прапаганды круцілася ўсё хутчэй і хутчэй, перамолваючы ў попел усіх Падрабязных, Недаверлівых ды Прыдзірыстых...

Выбары Мілка выйграла. Учора ў кузаве элегантнага грузавіка ад'ехала ў сталіцу.

Семдзесят адзін працэнт выбаршчыкаў злажылі свае надзеі ў яе, так сказаць, чатыры рукі. Дэмакратыя перамагла.

Той, хто аддаў свой голас іншаму кандыдату, хай цяпер Старшыню Мілку не аплёўвае: „Не твоё мамаша дело".

Так прынамсі сцвярджаюць старыя, выпрабаваныя сланы.

**Міхась Андрасюк**